PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 7 (2231) Год XLIV Беласток 14 лютага 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Парафіянскі фэст

Аляксандр Вярбіцкі

1 лютага 1749 года кароль Аўгуст III пацвердзіў сваёй граматай гарадскія правы Беластока. З гэтай нагоды дакладна 250 гадоў пазней у Палацы Браніцкіх адбылося ўрачыстае пасяджэнне Гарадской рады. Вёў сесію старшыня Рады праф. Казімеж Пенькоўскі. Прывітаўшы знатных гасцей на чале з беластоцкім мітрапалітам архібіскупам д-рам Станіславам Шымэцкім, старшыня даў слова беластоцкаму гісторыку Юзэфу Марошку. Пан Марошэк пачаў свой даклад пра гісторыю Беластока ад таго, як яго бацька пад нямецкай акупацыяй паліў архіўныя дакументы. Затым спадар Марошэк расказваў пра розныя прозвішчы і даты датуль, пакуль праф. Пенькоўскі не паведаміў яго, што адведзены яму ліміт часу вычарпаўся. Тады дакладчык кінуў свой рэферат і заявіў, што адсутнасць праваслаўных радных і выкліканы ёю аўрал у сродках масавай інфармацыі вынікае з неадукаванасці журналістаў. Далей ён заявіў, што да 1 сакавіка 1839 года ніякіх праваслаўных у Беластоку не было! Наканец павучыў ён журналістаў, каб больш чыталі. Пан Марошэк атрымаў бурныя апладысменты.

Гэты энтузіязм публікі так падзейнічаў на чарговых дакладчыкаў, што нават не прабавалі яны наблізіцца да Марошкавага ўзроўню. Выступаючы пасля Марошка ксёндз д-р Тадэуш Крагель пав-

[працяг ☞ 3]

## Заява

Радныя Кола незалежных радных праваслаўнага веравызнання не прымуць удзелу ва ўрачыстай сесіі Рады горада Беластока, якая адбудзецца 1 лютага 1999 года. У праграме ўрачыстай сесіі, якая прысвячаецца 250-годдзю атрымання магдэбургскага права горадам Беластокам, не знайшлося месца на даклады аб укладзе жыхароў праваслаўнага выравызнання і нацыянальных меншасцей у гісторыю горада. Праваслаўнае насельніцтва ад пачатку існавання горада над ракой Белай заўсёды было прысутнае і ўнесла свой сапраўдны ўклад у ягонае грамадска-гаспадарчае развіццё. Таксама і сёння з'яўляецца яно важнай часткай грамадскасці Горада, якая уплывае на яго рэлігійнае і культурнае аблічча. Непрыкметнасць гэтага факта арганізатарамі сесіі прымушае нас адмовіцца ад удзелу ў гэтай урачыстасці.

Беласток, 28 студзеня 1999 г.

**Антон МІРАНОВІЧ**
Намеснік старшыні
Гарадской рады Беластока
**Яраслаў МАТВЯЮК**
Старшыня
Кола незалежных радных
Радныя:
**Віталь БОНДА**
**Пятро БУРАК**
**Пятро КРУК**
**Марк МАСАЛЬСКІ**
**Славамір НАЗАРУК**
**Рыгор ПАДЛЯСКІ**



*Хаця мала плацяць, але трэба развітвацца.*

Гаспадары прадаваць танна свіней не спяшаюцца

# Як выжыць з сельскай гаспадаркі?

— А як інакш будуць баставаць гаспадары, як не блакіруючы дарогі. Вядома, што гэта перашкаджае іншым, але выліваць сваё малако не будуць, а перастаць карміць жывёлу таксама нельга, — кажа Уладзімір Андраюк з Янова, які прыехаў у Макаўку даведацца пра скупку свіней. — Можа цяпер, калі гаспадары арганізаваліся, урад пачне вырашаць справы вёскі. Апошнім часам нельга было прадаць ні свініну, ні збожжа, а за што маем выжыць?

Ад 1 лютага г.г. Сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў „Рольмак" з Макаўкі пачаў купляць свіней для Агенцтва сельскагаспадарчага рынку, але мала гаспадароў ахвотных прадаваць танна, бо па 2,60-2,80 зл. за кілаграм. У аўторак 2 лютага толькі двух гаспадароў прывезла да абеду 7 свіней.

— Не вязуць свіней, бо цана яшчэ не рэнтабельная і хіба чакаюць, што яна павысіцца, — кажа кіраўнік мяснога прадпрыемства кааператыва „Рольмак" і заадно адказны за скупку Гжэгаж Алендзкі.

У будынку кааператыва „Рольмак" сустракаю гаспадара з Янова.

— Я прыехаў даведацца толькі пра цану, але нават і танна трэба будзе прадаваць, бо не аплачваецца даўжэй карміць. Жывёла — гэта не збожжа, што паложыш і будзе ляжаць, — гаворыць Уладзімір Андраюк. — Яшчэ вясною ад сваёй свінаматкі было 10 штук парасят. Пару маладымі прадаў, адно хлопец з Катавіц, які родам адсюль, прыехаў і забраў, а іншых да гэтай пары не мог прадаць, хаця ўжо нават перараслі. Каб не пенсія, цяжка было б і выжыць. Раней было ў мяне 20 гектараў зямлі, 2 гады таму 12 прадаў для Агенцтва сельскагаспадарчага рынку за 20 мільёнаў старых злотых, а 8, якія засталіся, прыбытку не даюць. У адной каровы запаленне вымя было, дык і малако ў трэці клас ідзе па 45 грошаў за літр. Пазней яго з найлепшым зліваюць, але нам плацяць мала.

— Напэўна гаспадары маюць сілу і могуць змагацца за сваё, — уключаецца кіраўнік Гжэгаж Алендзкі, які прыслухоўвацца нашай размове. — Блакіраванне дарог напэўна многім перашкаджае, але гэта адзіны спосаб, каб дабіцца свайго. Клопаты з продажам свіней тычацца таксама і нашага прадпрыемства. На нашым рынку з'явілася многа мясных вырабаў з краін Еўрапейскага Саюза, дзе сельскагаспадарчая прадукцыя карыстаецца датацыяй дзяржавы і хаця мы панізілі цэны сваіх прадуктаў на 20%, таксама цяжка іх прадаць. Не можам прадаваць свае вырабы на ўсходні рынак, бо там таксама пастаўляецца таннейшае за нашае мяса з заходніх краін. Інфляцыя ў краіне панізілася за кошт сялян і іншых вытворцаў харчавання і толькі дзяржаўная датацыя можа адкрыць шлях да экспарту і павышэння цэн.

— Мужык кажа, што ўвогуле ўжо не будзем гадаваць свіней і свінаматку, калі так мала плацяць і браць не хочуць, але я гавару, што хаця сабе на святы трэба будзе ўкарміць, — гаворыць Надзея Аўксенцюк з Ласінкі (з раніцы спадарства Аўксенцюкі прадалі 3 штукі свіней). — Дайшло да таго, што перад нашымі святамі толькі па 1,60 зл. за кілаграм плацілі, свінні перараслі, а карміць трэба было ўвесь час. Пяць штук дома яшчэ засталося, але дарма прадаваць іх ужо не будзем, лепш улетку заколем на свае патрэбы. Зямлі ў нас толькі 8 гектараў. Крыху грошай за малако можна ўзяць, бо 3 каровы ў нас, але, калі б не мужава пенсія, цяжка было б. Можа бастуючыя нечага даб'юцца.

Размова з гаспадарамі паказвае, што адказам на пытанне як выжыць з сельскай гаспадаркі для многіх з'яўляецца пенсія, а для маладых — дапамога хатніх пенсіянераў.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

## Як гэта робяць у Беларусі

У раённым цэнтры Карэлічы Гарадзенскае вобласці дзейнічае сетка кабельнага тэлебачання. Аднаго прыгожага летняга вечара дэманстраваўся па ёй амерыканскі баявік. Вокамгненна праляцеў увесь фільм і пакуль людзі паспелі выключыць тэлевізары, пачаўся новы: добра вядомы ў свеце „Звычайны прэзідэнт" Юрыя Хашчавацкага, у Беларусі забаронены. Начальнікі забегалі! Схапіліся за трубкі тэлефонаў! Падлялі міліцыю і КДБ! А фільм ідзе.

[ажыятаж ☞ 2]

## Заскрыгатала ў Бельску і Беластоку

1 лютага гэтага года радныя Павятовай рады ў Бельску-Падляшскім выключылі са складу сваіх камісій двух дэпутатаў беларусаў Васіля Ляшчынскага і Юры Іванчука. Большасць Павятовай рады ў Бельску складаюць дэпутаты каталіцкай кааліцыі „Еднасць".

[неталерантнасць ☞ 3]

## Мастак на ўсе рукі

Я вучыўся з малых гадоў у мастацкай школе. Гэта быў цяжкі час, калі старая ўлада давала трэшчыны, нараджаліся новыя думкі. Мы шмат чыталі, пра шмат даведваліся ўпершыню. З гэтае школы выкінулі мяне за „вольнадумства". Я тады абараніў дыплом за 9 класаў у лепшых традыцыях беларускага мадэрна, у той час, калі пра Віцебскую школу не гаварылася, гэта была забароненая інфармацыя.

[размова з рэжысёрам ☞ 4]

## Тое, што ў сэрцы

А ці ж лёгка рабіць сёння „тое, што ў сэрцы?" З „культурай", самі ведаеце, як у нас цяпер на вёсцы. Зрэшты, як і ўсюды. Людзі больш пра хлеб думаюць, а ўладам гэта і лепш: не трэба думаць пра датацыі. Памаленьку людзі адвыкаюць ад культуры.

[з раённага агляду ☞ 5]

## Ізноў аб арлянскіх яўрэях

У другую сусветную вайну сінагогу перамянілі ў бальніцу і склад. Каля 1983 года пачалася яе рэстаўрацыя. Арлянская бажніца мела цудоўнае ўнутранае ўбранне, перад усім вялізэзны Арон Га-Кодэш, значыць, шафу, дзе хаваецца пергаментная Біблія.

[помнік ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Дэмакраты ўсёй Беларусі аб'ядноўваюцца

29-30 студзеня ў Мінску адбыўся Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі. У ім прынялі ўдзел каля сямісот дэлегатаў ад беларускіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

За два дні працы кангрэса на ім выступілі такія вядомыя палітыкі, як Сямён Шарэцкі, Лявон Баршчэўскі, Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Мікалай Статкевіч ды іншыя. Усе яны казалі пра катастрафічны стан беларускай эканомікі, да якога давёў краіну рэжым Аляксандра Лукашэнкі, пра наступ уладаў на дэмакратычныя інстытуты ў дзяржаве, пра пагрозу незалежнасці краіны. Удзельнікаў кангрэса аб'ядноўвала перакананне, што выйсце з сацыяльна-эканамічнага і палітычнага крызісу ў кансалідацыі ўсіх беларускіх дэмакратычных сіл.

Пра сур'ёзнасць форуму сведчыў факт зацікаўленасці ім у свеце. Прывітальныя тэлеграмы кангрэсу даслалі лідэр „Салідарнасці" Мар'ян Кшаклеўскі, кіраўнік кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік. Гасцямі кангрэсу былі дэпутаты літоўскага, украінскага і расійскага парламентаў.

Удзельнікі кангрэсу прынялі шэраг рэзалюцый, у тым ліку „Аб пагрозе дзяржаўнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь", „Пра неабгрунтаванасць эканамічнай і сацыяльнай палітыкі прэзідэнта і ўрада Беларусі, „Аб парушэнні правоў чалавека на Беларусі", „Пра дыскрымінацыю беларускай мовы на Беларусі".

Прынятая рэзалюцыя „Пра адносіны да выбараў" сведчыць пра тое, што дэмакратычныя сілы краіны не лічаць магчымым удзел у выбарах мясцовых саветаў, якія падрыхтаваны нелегітымным прэзідэнцкім парламентам.

Удзельнікі форуму прынялі зварот да ўрадаў заходніх краін з заклікам дамагчыся ад беларускага кіраўніцтва гарантый асабістай бяспекі лідэру Беларускага народнага фронту Зянону Пазьняку, у выпадку яго вяртання на радзіму.

На кангрэсе было аб'яўлена аб стварэнні Каардынацыйна-кансультатыўнай рады дэмакратычных арганізацый Беларусі, у якое склад увойдуць прадстаўнікі партый і грамадскіх арганізацый падчас сумесных перамоваў.

А вечарам 30 студзеня ў Мінску адбыліся шматлюдная шэсце і мітынг у падтрымку Кангрэса дэмакратычных сіл. Нягледзячы на моцны мароз на вуліцы Мінска выйшла каля пятнаццаці тысяч чалавек. Гэта была найбольш масавая акцыя беларускай апазіцыі за апошнія два гады. Сутыкненняў з міліцыяй не было. Па звестках праваабарончага цэнтра „Вясна-96", пасля мітынгу праваахоўчымі органамі быў затрыманы Вадзім Канапацкі за выкарыстанне падчас акцыі апазіцыі незарэгістраванага сцяга Маладога фронту. Але на гэты раз суд, які адбыўся над маладым хлопцам праз некалькі дзён, вырашыў абмежавацца толькі папярэджаннем.

**Зміцер Кісель**

# Як гэта робяць у Беларусі

У раённым цэнтры Карэлічы Гарадзенскае вобласці дзейнічае сетка кабельнага тэлебачання. Падключаных да яе, больш-менш, дзве тысячы абанентаў. У іх ліку, вядома, уся мясцовая знаць: начальнікі, міліцыянты, кадэбісты.

Аднаго прыгожага летняга вечара селі яны ва ўтульных кватэрах перад каляровымі тэлевізарамі паглядзець амерыканскі баявік. Папярэдняга дня аператары зрабілі фільму рэкламу, заказваючы яго некалькі разоў, пускаючы прытым больш смакавітыя фрагменты.

Сюжэт у амерыканскіх кінастужках раскручваецца надзвычай хутка. Вокамгненна праляцеў увесь фільм. Але, пакуль людзі паспелі выключыць тэлевізары, пачаўся новы: добра вядомы ў свеце і значна менш у Беларусі „Звычайны прэзідэнт" Юрыя Хашчавацкага. У фільме, які паказвала таксама польскае тэлебачанне, пра Лукашэнку гавораць адстаўленыя ім ягоныя супрацоўнікі. За фон служаць фрагменты афіцыйных хронік з розных урачыстасцей, прэзідэнцкіх падарожжаў, прамоў, якія, па розных прычынах, выпалі падчас мантажу і не дэманстраваліся ў тэлеэфіры. „Звычайны прэзідэнт" у Беларусі забаронены.

Начальнікі забегалі! Схапіліся за трубкі тэлефонаў! Паднялі міліцыю і КДБ! А фільм ідзе.

Кінуліся яны на сядзібу тэлестудыі, а там нікога няма. Аператар зачыніў дзверы на замок і пайшоў дахаты. Міліцыянты ўзяліся ламаць дзверы. Пакуль знайшлі лом, пакуль зламалі дзверы... Фільм увесь час ідзе.

Урэшце дзверы пусцілі, а там сюрпрыз — наступныя. Зламалі і другія дзверы, а за імі жалезная крата. Узяліся ламаць крату, а яна не пускае. Фільм ідзе. Людзі глядзяць.

Начальнікам пускаюць нервы. Дырэктар кабельнага тэлебачання — ён жа старшыня мясцовага калгаса — спахапіўся, што магнітафон, які круціць касету, прыпсаваны. Хопіць яго крыху паварушыць, каб ён спыніўся. Міліцыянты пабеглі шукаць каменьчыкі. Пачалі імі, між крат, прыцэльвацца ў магнітафон. Не папалі. Фільм скончыўся.

Тут вяртаецца з дому аператар, каб выключыць апаратуру. Схапілі яго, скруцілі і ў варанок. На другі дзень спецыяльна прыехаў следчы КДБ з Мінска:

— Скажы, дзе дастаў касету!

— Купіў на базары амерыканскі баявік. Я ж яго не глядзеў раней і ведаць не ведаў, што на ім яшчэ запісана.

Мясцовыя адразу западозрылі лідэра БНФ у Карэлічах і давай да аператара з больш канкрэтнай прапановай:

— Скажы, што касету даў табе Аляксандр Самец і мы табе нічога не зробім. Нават з працы не звольнім.

Тым часам пра здарэнне затрубілі. У сродках масавай інфармацыі паявілася прозвішча Аляксандра Самца. Людзі пачалі да яго звяртацца, дзякаваць за фільм. На няшчасце, такое самае імя і прозвішча ў намесніка старшыні гарвыканкама. Адзін хлопец, пачуўшы прозвішча па Радыё „Свабода", знайшоў у тэлефоннай кніжцы нумар начальніка, патэлефанаваў яму з просьбай пазычыць касету. Начальнік сеў на каня!

Кабельнае тэлебачанне было зачынена месяцы два. У лазні голы дырэктар калгаса крычаў на голага шэфа БНФ: „Ты мне за гэта адкажаш"!

Аднак, ніхто не адказаў. Тэлебачанне зноў запрацавала, аператар застаўся на пасадзе. А БНФ пасля фільма прыдбаў новых членаў.

**М. В.**

# У гонар Антона Луцкевіча

30 студзеня ў Гродне праходзіла навуковая канферэнцыя, якая была прысвечана 115-м угодкам з дня нараджэння вядомага беларускага палітычнага дзеяча і навукоўца Антона Луцкевіча. Яе арганізатарамі сталі Беларускае краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута (БКТ) і Гродзенская філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ).

У канферэнцыі прынялі ўдзел дзевяць навукоўцаў — з Беластока, Гродна і Мінска. Тэмы іх дакладаў прысвячаліся розным перыядам жыцця Антона Луцкевіча, яго навуковай і грамадскай дзейнасці. Быў ён стваральнікам першай беларускай палітычнай партыі — Беларускай сацыялістычнай грамады, спадкаемцам якой зараз лічыцца БСДГ і таму сябры Грамады актыўна ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы і правядзенні канферэнцыі. Але мерапрыемства насіла выключна навуковы характар і асоба Антона Луцкевіча разглядалася без ідэалагічных штампаў і ідэалістычных прыкрас.

Пра яго жыццёвы шлях поўны драматычных, часам трагічных, падзеяў расказаў сакратар БКТ Уладзімір Хільмановіч. Кандыдат гістарычных навук з Гродна Алесь Смалянчук адкрыў малавядомую шырокаму колу грамадства старонку з жыцця Антона Луцкевіча, калі ён на пачатку стагоддзя разам з іншымі беларускімі палітыкамі спрабаваў стварыць грамадзянскую супольнасць жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага. Пра сяброўства братоў Івана і Антона Луцкевічаў з вядомымі літоўскімі дзеячамі, якія пасля сталі ўплывовымі палітыкамі міжваеннай Літвы, распавёў гродзенскі гісторык Ігар Трусаў.

Навуковец з Мінска, супрацоўнік Аддзела нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі Інстытута гісторыі Акадэміі Навук Уладзімір Ляхоўскі паведаміў пра дзейнасць Антона Луцкевіча ў Гродне ў канцы 1918 — пачатку 1919 гадоў, падчас знаходжання ў ім ўрада БНР. Сугучным гэтаму выступленню быў даклад аспіранта Кафедры гісторыі Гродзенскага універсітэта Андрэя Чарнякевіча. Малады навуковец, спасылаючыся на ўспаміны патрыярха беларускага адраджэння, расказаў, якую характарыстыку даваў Луцкевіч беларускім дзеячам таго часу.

Гісторык з Беластока Алег Латышонак распавёў пра дыпламатычную дзейнасць Антона Луцкевіча ў час, калі ён займаў пасаду прэм'ер-міністра ўрада БНР, пра яго сустрэчы з Юзэфам Пілсудскім. Другі беластоцкі гісторык Яўген Міраповіч расказаў як складалася палітычнае жыццё беларусаў у Польшчы ў канцы 20-30-х гадоў, пра ўдзел у ім Антона Луцкевіча.

Пра дыскусіі гэтага вядомага сваімі левымі поглядамі дзеяча з кіраўніком беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў Адамам Станкевічам зрабіў даклад выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Янка Трацяк, а пра навукова-асветніцкую дзейнасць Антона Луцкевіча ў Заходняй Беларусі расказаў супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі Навук з Мінска Валянцін Мазец.

Арганізатары канферэнцыі плануюць неўзабаве надрукаваць усе даклады, якія прагучалі 30 студзеня.

**Зміцер Кісель**

# Смяротныя шарыкі

У канцы мінулага і на пачатку гэтага года ў Гродне адбылося некалькі забойстваў, якія навялі жах на гараджан. У вечаровую пару вуліцы горада заўважна пусцеюць. Людзі баяцца выходзіць на вуліцу. У асаблівай небяспецы адчуваюць сябе жыхары мікрараёна Фарты, дзе грасуе банда.

Па горадзе разыходзяцца чуткі пра пяць, сем, а то і адзінаццаць забітых няўлоўнымі злачынцамі. Міліцыя, хаця ж не адмаўляе факта серыйных забойстваў, аднак лічыць, што чуткі значна перабольшаны. Згодна афіцыйным паведамленням, у студзені ў Гродне адбыліся два забойствы. Адно з іх — на бытавой глебе, у выніку сваркі паміж п'янымі знаёмымі. Асоба чалавека, які падазраецца ў гэтым злачынстве, ужо вядомая.

А вось забойства 8 студзеня малодога мужчыны міліцыя звязвае з дзвюма іншымі, якія адбыліся напрыканцы мінулага года. Усе тры чалавекі былі забіты металічнымі шарыкамі дыяметрам сем міліметраў ад звычайнага падшыпніка. Стралялі імі з самапала або з газавага пісталета, у патрон ад якога быў устаўлены шарык. На думку следчых, злачынцы — жыхары Гродна або людзі, якія доўгі час жывуць у горадзе. Зыходзячы з таго, што яны страляюць не толькі па людзях, але і па сабаках, дзеля забавы (адна жывёла была забіта шарыкам, другая паранена), гэта не прафесіяналы злачынных спраў, — мацёрыя забойцы так не робяць.

Забітыя не былі знаёмыя паміж сабой, не звязаны з крымінальным светам, не мелі вялікіх грошай. Ахвяры былі застрэлены каля пад'ездаў сваіх дамоў, калі вечарам вярталіся дахаты. Бессэнсоўнасць забойстваў яшчэ больш палохае людзей, бо наступнай ахвярай можа стаць кожны.

Міліцыя ўжо ведае прыкметы злачынцаў. Следчыя крымінальнага вышуку падазраюць, што гэта два маладыя хлопцы. Аднак у адным выпадку сведкі забойства казалі, што страляў чалавек 35-40 гадоў. Нягледзячы на гэтыя разыходжанні меркаванняў, начальнік міліцыі Гарадзенскай вобласці палкоўнік Анатоль Белашэўскі ўпэўнены, што злачынцы будуць абясшкоджаны.

— Кола падазроных звужваецца, — сказаў палкоўнік Белашэўскі на прэс-канферэнцыі 26 студзеня. — З соцень ён зменшыўся да дзесяткаў. Хутка мы выйдзем на тых двух.

**Зміцер Кісель**

# Беласточчына стала бліжэй

31 студзеня ў Гродне адбылася сустрэча прадстаўнікоў розных маладзёжных арганізацый з беларускімі навукоўцамі і грамадскімі дзеячамі Беласточчыны Яўгенам Мірановічам і Алегам Латышонкам, якія расказалі пра жыццё беларусаў у Польшчы, пра праблемы, з якімі яны сутыкаліся пры сацыялістычным ладзе і якія напаткалі беларусаў пры цяперашняй дэмакратыі.

Гарадзенскія хлопцы і дзяўчаты задалі гасцям шмат пытанняў. Моладзь цікавілася станам беларускага школьніцтва ў Польшчы, дзейнасцю маладзёжных арганізацый, рэлігійным жыццём, сувязямі паміж беларусамі па розных баках дзяржаўнай мяжы. Арганізатарам сустрэчы стала Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада.

**(зк)**

# Як разбудуецца Бельск?

27 студзеня г.г. у Бельскім доме культуры адбылася V сесія Гарадской рады, прысвечаная разбудове горада на працягу 10-20 гадоў.

Цяперашні план прасторавай разбудовы Бельска-Падляшскага траціць важнасць з канцом гэтага года і радныя вырашылі прыняць новы, выкарыстоўваючы распрацоўку абумоўленасцей і напрамкаў прасторавага добраўпарадкавання горада. Хаця колькасць жыхароў Бельска павялічылася за апошнія шэсць гадоў толькі на 4,5%, радныя звярталі ўвагу на ўмовы, якія могуць паспрыяць развіццю горада. Гаварылі, між іншым, пра дарогу н-р 19 з Бельска ў Люблін, пра пераход у Полаўцах і тэхнічную базу ў горадзе, падкрэсліваючы, што ўсе гэтыя фактары трэба ўмела выкарыстоўваць.

Пад будову новых прадпрыемстваў і, перад усім, прыватных аднасямейных дамоў прапанаваны былі дзве вялікія плошчы. Радныя вырашылі, што ў асноўным горад разбудоўвацца будзе ва ўсходнім напрамку (на ўсход ад вуліцы Хмельнай, а налева ад дарогі ў Гайнаўку). Горшыя землі, распаложаныя далей ад цэнтра горада, у паўднёвым напрамку, будуць таксама забудоўвацца, але больш павольна. Горад не будзе разбудоўвацца на захад, бо цераз цэлы раён будзе пракладзена акружная дарога з Беластока ў Люблін.

Дыскусія датычыла таксама пабудовы ў цэнтры горада вадасховішча на рэчцы Белай, але радныя не давалі вялікіх шансаў на рэалізацыю гэтай інвестыцыі. Паявілася таксама прапанова пабудаваць вадасховішча на ўскраіне горада, са скальным агародам і паркам, але рэалізм узяў верх і прапанова была адкінута ў час галасавання. Агульныя распрацоўкі разбудовы горада папоўнены будуць у будучыні дакладнымі планамі забудовы ў паасобных кварталах.

Бурмістр Андрэй Сцепанюк паінфармаваў, што на трынаццаць кварталаў, па прычыне пасіўнасці жыхароў, выбраны былі толькі сем радаў, якія будуць вырашаць аб найважнейшых справах у сваіх раёнах горада. Прынята была пастанова, што да 30 сакавіка будуць праведзены паўторныя выбары ў астатніх шасці кварталах.

Пасля бурнай дыскусіі былі павышаны цэны білетаў на гарадскі транспарт. На больш чым 30% павысілася падставовая стаўка за жыллёвыя і сацыяльныя камунальныя кватэры. Аднак аўтары павышэння інфармавалі, што маючы на ўвазе розныя льготы, агульнае павышэнне платы за кватэры не будзе надта вялікае. Квартплата за жыллё плошчаю 35 кв. метраў узрасце ў сярэднім на 11 злотых. Радныя зацвердзілі таксама план працы на 1999 год, а ў час інтэрпеляцый паявілася справа кінатэатра „Зніч". Намеснік старшыні рады і заадно намеснік дырэктара школы н-р 3 Мікалай Вязоўскі прадставіў прапанову групы радных, якую падтрымлівае і дырэктар БДК Сяргей Лукашук, каб кінатэатр, які цяпер здымае памяшканні ў БДК, перадаць Бельскаму дому культуры. Вялікая зала кінатэатра „Зніч" (320 месцаў) магла б тады выкарыстоўвацца для арганізацыі розных культурных мерапрыемстваў. Звяртаў ён таксама ўвагу, што зала БДК на 250 месцаў амаль заўсёды занята, бо ў Доме культуры праводзіцца зараз 16 пастаянных формаў заняткаў, а некаторыя сустрэчы з-за недахопу месца адбываюцца ў школах. Радныя выносілі таксама пытанні наконт рамонту паасобных вуліц, вулічнага асвятлення і іншых камунальных спраў.

**Аляксей Мароз**

# На сходзе ў Кузаве

28 студзеня 1999 года ў Кузаве арганізаваўся вясковы сход для выбару солтыса. У мясцовай святліцы сабралася каля пяцідзесяці гаспадароў. Прысутнічалі мясцовы радны Янка Найбук і войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі.

Згодна з павесткай дня солтыс Мікола Саўчук павінен быў выступіць са справаздачай за мінулыя чатыры гады. Але калі заявіў ён прысутным, што справаздача будзе тычыцца ўсіх яго васьмі гадоў на пасадзе, з залы нехта патрабаваў абмежавацца да апошняй кадэнцыі. Солтыс настолькі збянтэжыўся, што нечакана заявіў: „У апошніх чатырох гадах нічога не зрабіў!" Каб выйсці з нязручнай сітуацыі, голас узяў войт гміны, які сказаў наступнае:

— Гэта зусім не так. У Кузаве многае зрабілася і вёска змяніла сваё аблічча. На працягу апошніх гадоў быў пабудаваны водаправод. Вуліца атрымала асфальтавае палатно. Мадэрнізавалася энергетычная лінія і вулічнае асвятленне. Пабудавалася месца для звалкі смецця. Гэта толькі некаторыя важнейшыя справы.

Пасля войт М. Врублеўскі гаварыў аб дзейнасці Рады гміны і планах на бліжэйшую будучыню:

— Гэты год будзе для нас цяжкі і напружаны. Зараз вядзецца некалькі патрабуючых вялікіх капіталаўкладанняў інвестыцый, якія паглынаюць амаль цэлы гмінны бюджэт. Гэта разбудова адміністрацыйнага будынка ў гміне, адкрыццё амбулаторыі ў будынку прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу і працяг пабудовы 1 км тратуара з вёскі Чаромхі ў пасёлак. Пачнем мадэрнізацыю вулічнага асвятлення на тэрыторыі гміны. Старыя лямпы будуць заменены энергаашчаднымі. Дазволіць гэта перайсці на начны тарыф, у выніку чаго будзем карыстацца асвятленнем усю ноч.

Даволі сур'ёзнай справай з'яўляецца сарганізаванне гімназіі ў ходзе школьнай рэформы.

— Ужо зараз чуваць галасы настаўнікаў, — працягваў прамоўца, — што будуць праблемы з памяшканнямі. Гэта няпраўда. Недзе ў чэрвені вызваліцца будынак філіяла ЗДЗ, прасторны і прыгодны для школы, бо з такой мэтай быў ён пабудаваны.

У заканчэнні свайго выступлення войт сказаў яшчэ:

— Чуліся прапановы, каб Чаромсе прысвоіць статус горада. Аднак мы яшчэ да гэтага не падрыхтаваны. Да таго трэба падыходзіць стрымана і разважна. У гэтым годзе сарганізуем у гміне прадпрыемства камунальнай гаспадаркі. Працаўнікі гэтай установы будуць займацца выключна гаспадарчымі праблемамі гміны (дагэтуль імі займаліся адміністрацыйныя працаўнікі). Будзем першай гмінай у краіне, якая будзе мець такую ўстанову. Гэта і будзе чарговы крок, які наблізіць нас да горада.

Пасля былі выбары. Падліковая камісія прыняла заявы ад трох кандыдатаў на солтыса. У выніку тайнага галасавання перамог **Уладзімір Раманчук**.

Сход вылучыў таксама Салэцкую раду з чатырох асоб (дзве жанчыны і двух мужчын). Гэта ў асноўным маладыя людзі. Значыцца, кузаўцы рашылі перадаць кіраванне вёскай маладому пакаленню. Ці яны справяцца з гэтай задачай? Пакажа час.

**Уладзімір Сідарук**

# У сваю кішэню

Апошняя сесія Гміннай рады ў Орлі, якая праходзіла напярэдадні Новага года, хаця ў асноўным прысвечана была падаткам, закранула таксама хвалюючыя грамадства фінансавыя справы. Калі радныя дайшлі да пытанняў і прапаноў, радныя Аляксандр Шыманскі і Мікалай Рэнгайла з Орлі ды Сцяпан Цімафяюк са Шчытоў абвінавацілі войта ў памылковым планаванні і невыконванні пастаноў рады датычных інвестыцый у гміне. Напрыклад, ужо некалькі гадоў плануецца пракладка водаправода з Орлі ў Шчыты, не завяршаецца будова амбулаторыі і жылога блёка пры школе ды перабудова школьнай каналізацыі. І хаця гэтыя работы былі занесены ў спіс інвестыцыйных задач, войт іх адтэрміноўваў, а фінансавыя сродкі накіроўваў на будову дарог.

Чарговай справай, якая выклікала рознагалоссе, была прапанова раднай Аліцыі Шчапаноўскай наконт павышэння зарплаты войту, якую падтрымаў старшыня рады Яўген Зінкевіч. І хаця некалькі разоў старшыня намагаўся правесці галасаванне ў гэтай справе, радныя не праявілі жадання зрабіць такое — раз у зале панавала магільная цішыня, іншы раз успыхала бурная і хаатычная спрэчка. Апазіцыйныя радныя патрабавалі нават зменшыць войтаў аклад.

Яшчэ адна справа ўзбударажыла радных і ўдзельнікаў сесіі, калі з вуснаў войта даведаліся яны, што старшыня рады Яўген Зінкевіч з Маскоўцаў усё-такі злоўжываў службовым становішчам. Справа выявілася тады, калі частка радных звярнулася ў Аддзяленне аховы асяроддзя Ваяводскай управы з запытам аб законнасці дзеянняў старшыні ў папярэднім скліканні, які прадаваў гміне жвір са свайго кар'ера, хаця ў гміны ёсць свая жвіроўня. Пісьмо радных у вышэйшую інстанцыю войт назваў даносам, у выніку якога старшыні рады прыйдзецца заплаціць некалькі тысяч злотых штрафу. У зале усчаўся гармідар і старшыня вымушаны быў лупіць кулаком па стале, каб уціхамірыць сабраных.

А на заканчэнне пасяджэння радных і гасцей сесіі з Новым годам павіншавала жыхарка Орлі Таіса Кацэйка. Старшыня Рады яшчэ раз хацеў вярнуцца да справы павышэння зарплаты войту, але калі не атрымалася дык пажадаў усім, каб у новым годзе „не было горш".

**Міхал Мінцэвіч**

# Заскрыгатала ў Бельску і Беластоку

1 лютага гэтага года радныя Павятовай рады ў Бельску-Падляшскім выключылі са складу сваіх камісій двух дэпутатаў беларусаў Васіля Ляшчынскага і Юры Іванчука. Большасць Павятовай рады ў Бельску складаюць дэпутаты каталіцкай кааліцыі „Еднасць". Васіль Ляшчынскі з'яўляецца вялікім аўтарытэтам беларускага грамадства ў Бельску, таму і дэманстрацыя непрыхільнасці супраць ягонай асобы будзе ўспрынята як праява антыбеларускай дзейнасці кіруючай Павятовай радай большасці. Да гэтай пару ў Польшчы яшчэ не здаралася, каб якога-небудзь раднага калегі адхілілі ад удзельніцтва ў працы нейкай камісіі. Радныя левай кааліцыі, якой сябрамі з'яўляюцца Васіль Ляшчынскі і Юры Іванчук, накіравалі пратэст супраць дыскрымінацыі беларусаў з паведамленнем Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей.

Іншы характар меў канфлікт вакол святкавання 250 гадавіны набыцця гарадскіх правоў горадам Беластокам (чытай на с. 1 і 3). У адным і другім выпадку радныя палякі па зусім ірацыянальных прычынах праігнаравалі беларусаў, ці праваслаўных, дэманстрацыйна паказалі меншасцям іхняе месца ў гэтым ваяводстве. Сведчыць гэта пра інтэлектуальны ўзровень мясцовых палітыкаў і паказвае як палітыка лакальных самаўрадавых улад можа разыходзіцца з мэтамі дзяржаўнага кіраўніцтва, якое імкнецца давесці краіну да еўрапейскіх стандартаў. На Беласточчыне магутныя мясцовыя сілы мараць аб вяртанні атмасферы крэсаў міжваеннага перыяду. Толькі навошта?

**(ям)**

# Парафіянскі фэст

[1 ☞ працяг]
даміў, што ў XVIII стагоддзі ў Беластоку пражывалі не толькі каталікі, але і прадстаўнікі іншых канфесій, у тым ліку праваслаўныя і уніяты; відаць, ксёндз Крагель, як і журналісты, таксама не чытае Юзэфа Марошка.

З выступленняў другіх прамоўцаў адзначу толькі выступленне архібіскупа д-ра Станіслава Шымэцкага, які даволі коратка згануў пра мінулы ў Беластоку і спадзяваны ў Драгічыне візіт папы Яна Паўла II. Прэзідэнт Беластока Рышард Тур звярнуў увагу, што хаця ў міжваенны перыяд Беласток знаходзіўся ў геаграфічным цэнтры дзяржавы, аставаўся ён крэсавым горадам. Віцэ-ваявода Юзэф Клім таксама падкрэсліў шматкультурнасць горада.

На юбілей Беластока былі запрошаны і другія знатнасці, якія па розных прычынах не маглі прыехаць на ўрачыстую сесію, але даслалі віншавальныя адрасы. Найперш быў зачытаны ліст эміграцкага прэзідэнта Рышарда Качароўскага; на другім месцы па беластоцкім рангу вялікіх непрысутных апынуўся былы прэзідэнт Лех Валэнса. Трэцім быў зачытаны ліст маршалка Сейма Мацея Плажынскага, які зноў падкрэсліў шматкультурнасць Беластока.

Запрошаныя на ўрачысты юбілей прадстаўнікі іншых польскіх гарадоў перадалі беластачанам станоўчыя пажаданні, а некаторыя з іх прывезлі нават падаркі. Было іх тры: ад Любліна — карціна з пейзажам Любліна з касцёлам на першым плане, ад Быдгашчы — карціна з пейзажам Быдгашчы з касцёлам на першым плане і ад Гданьска — карціна з пейзажам Гданьска з касцёлам на першым плане. Баліся, набожныя, папасць у хрысціяніна Марошка няласку!

Хаця праваслаўныя радныя адказаліся ад удзелу ва ўрачыстай сесіі Гарадской рады ды адсутнічалі праваслаўныя іерархі, беларускі след там быў. Праф. Казімеж Пенькоўскі заўважыў присутнасць у зале консула РБ у Беластоку Мікалая Крэчкі ды пасла Сяргея Плевы — дзеяча БГКТ.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Мастак на ўсе рукі — Патаранскі

**З маладым рэжысёрам Сяргеем ПАТАРАНСКІМ з Мінска размаўляе Міра Лукша.**



***— Ты на Беласточчыне не першы раз. Цяпер запрасіла цябе наша Зорка.***

— Першы раз папаў я на Беласточчыну, калі мне было 16 гадоў, і зусім яшчэ не ведаў да таго часу, што тут жывуць беларусы. Вучыўся я тады ў беларускім ліцэі, і мы з Уладзімірам Коласам прывезлі ў Бельск-Падляшскі здаровы аўтобус кніг. Рабілі мы нават інтэрв'ю з навучэнцамі бельскага ліцэя. Аб'ехалі мы тады Польшчу, былі ў гасцях і ў кашубаў, і мелі мы параўнанне з нашымі і вашымі беларусамі. Мне ад Беластока засталося тады такое ўражанне, што гэта урбаністычна-эканамічны гігант без уласнага вобліку. Беласток асацыюецца ў Беларусі з гандлем, з базарам, з перакупшчыкамі. Я толькі на „Басовішчы" адчуў, што ёсць тут сапраўдныя беларусы.

***— Ты, як малады чалавек, маеш напэўна ідэі, якія, на тваю думку, маглі б выратаваць сітуацыю ў нас і ў вас.***

— Калі падтрымліваць сур'ёзную беларускую справу, над гэтым трэба папрацаваць, заахвоціць колы маладой буржуазіі, каб яна скідвала сродкі, якія б акупіліся. Раз — неабходнае сур'ёзнае беларускае выдавецтва, кінастудыя свая, тэатральная школа, тэатр свой. Базіс якісь ёсць, ёсць жа і людзі, якія зацікаўлены. На жаль, у Мінску аналагічная праблема, хоць у нас накладваецца эканамічная сітуацыя.

***— Значыць, мяркуеш, ёсць у нас людзі, якія гатовы даць грошы на „прапашчую" справу... І падумаюць, што на гэтым заробяць. Кожны хоча рабіць сваё. Ты таксама даходзіў да свайго досыць доўга, хоць напраўдзе ведаў, чаго хочаш.***

— Я вучыўся з малых гадоў у мастацкай школе. Гэта быў цяжкі час, калі старая ўлада давала трэшчыны, нараджаліся новыя думкі. Мы шмат чыталі, пра шмат даведваліся ўпершыню. З гэтае школы выкінулі мяне за „вольнадумства". Гэта звязана было з маімі эстэтычнымі пазіцыямі. Я тады абараніў дыплом за 9 класаў у лепшых традыцыях беларускага мадэрна, у той час, калі пра Віцебскую школу не гаварылася, гэта была забароненая інфармацыя. Мне засталося ісці ў звычайную савецкую школу. А савецкая школа — гэта проста *амба!* Усё там тоне ў бескультур'і і малаадукаванасці, мякка кажучы. Я там правучыўся адзін месяц. Маці прачытала ў гарадской газеце, што Беларускі гуманітарна-адукацыйны культурны цэнтр дае аб'яву аб наборы ў беларускі ліцэй. Я прайшоў экзамены, прайшоў калёквіум. За два гады выхавалі там з мяне чалавека ў добрым сэнсе слова, вызначылі арыентацыю маёй асобы і я мог разабрацца: хто, чаго і навошта і хто я такі ў гэтым свеце. Я пачаў пісаць, пачаліся пэўныя кантакты з пісьменніцкім асяроддзем. Гэта быў таксама цікавы час для літаратуры: „Тутэйшыя" перажывалі свой дэкаданс, на пяткі ім наступала новае пакаленне, новая хваля літаратараў. Яны таксама шмат займаліся маім выхаваннем; найбольшы ўплыў мела на мяне выдатная паэтэса Наталля Кучмель, мой паэтычны настаўнік. Яна прывіла мне тое, што неабходна любому творчаму чалавеку — густ і меру.

***— Твая першая кніжачка, выдадзеная ў колах „Бум-бам-літа", нашумела шмат, хоць выдадзена была толькі ў 20 экземплярах. Называецца яна „Секс".***

— „Бум-бам-літ" быў піскам моды ў жыцці літаратурнага Мінска сярэдзіны дзевяностых гадоў. Мы былі маладымі, поўнымі энергіі, нас аб'ядноўвалі нейкія агульныя задачы. Думалі выдаваць кнігі самвыдатам, маленькімі праектамі. У „Сексе" было толькі 5 вершаў і мае малюнкі. А шуму было столькі, быццам яе было 20 тысяч! Тэма тонкая. Я быў абвінавачаны ў распусце, амаральнасці, але кожны з маіх абвінаваўцаў гэту кніжачку хацеў займець. Я, калі б там было што непрыстойнае, не абнародаваў бы гэтага. Другая кніжка, „Залаты вецер", выйшла ў дзяржаўным выдавецтве, пры падтрымцы „Маладосці". Ляжала яна два гады, я за той час памяняў часткова змест, таму што тады, калі яе здаваў, быў у зусім іншым творчым перыядзе (вершы з часу калі мне было 16-17 гадоў). У ёй вершы на розныя тэмы і ў розных творчых манерах. Я спрабаваў у паэзіі ад традыцыйных жанраў да *неа*. Думаю, што зараз прыйшоў да свайго стылю.

***— Пасля заканчэння ліцэя ты студыяваў год журналістыку, так хацелі родныя: будзеш зарабляць пяром. А ты ж яшчэ і спяваў 12 гадоў у хоры... Калі маці была ў водпуску, ты ўзяў ды паступіў у Беларускую акадэмію мастацтваў, на тэатральны факультэт. У маці была істэрыка...***

— Я хацеў больш шырока рэалізаваць сябе ў сінтэтычных мастацтвах, якія б спалучалі ўсё, чым я валодаю, чым хачу валодаць, аб чым мару. Спалучыць літаратуру, выяўленчае мастацтва, музыку — усё, чым я займаўся. А ў Беларусі ўжо тады было відавочна, што мастацкая эліта гэта людзі малазарабляючыя. Зараз гэта ў нас пераўтварылася ў катастрофу. Інтэлігенцыя зарабляе столькі, што сорам сказаць — недзе па 10 долараў. Па сутнасці співаюцца, на жаль... Вядомыя майстры знаходзяцца ў стане жабрацтва, мастакі, не кажу ўжо пра літаратараў. Гэта проста сорам гэтай дзяржаве. Наш тэатр гэта сёння мярцвяк, якому не памогуць ін'екцыі. А моладзь вымушана думаць пра сябе. Большасць маіх сяброў ужо за мяжой. Няважна, на якой мове ты будзеш рабіць фільм, будзе гэта беларускі фільм. Нам трэба жыць, нам трэба выжыць. Усе мы людзі і не жывем святым духам. Як тут думаць пра нейкую творчасць, калі неабходна думаць, каб захаваць сябе фізічна! З кожным месяцам адчуваеш, як закручваюцца гайкі, як перарубваюць дыхаўку на адным, на другім, на трэцім... Ты пазбаўляешся работы за сваю творчую пазіцыю, па ўсіх накірунках, і напраўдзе знаходзішся на вуліцы. Хашчавацкі не можа здымаць кіно ў Беларусі, ён працуе ў Расіі. Далей тэма ў яго адна — свабоды, волевыяўлення чалавека. Трагічная сітуацыя і на кінастудыі. Генацыд на маральным, духоўным і культурным узроўні перамяняецца ў фізічны генацыд. Нашы артысты не горшыя за заходніх, была ж у нас і выдатная школа аператараў...

***— Хто ва ўсім гэты вінаваты?***

— Нашы абмежаваныя, малакультурныя, непрафесіянальныя і прафанскія начальнікі, закамплякселыя, для якіх тое, што беларускае, нічога не вартае. Тут бачны і комплекс непаўнацэннасці нашага прэзідэнта, дзіцяці савецкага выхавання, тым больш усходняга, якому акрамя лапцяў Беларусь з нічым іншым не асацыюецца. Такія начальнікі кіруюць культурай, палітыкай, эканомікай....

***— Беларусы прабуюць даваць сабе рады, збіраюцца, раяцца...***

— Практыка гэтых з'ездаў беларусаў, нейкіх канферэнцый звязаных з беларускай культурай і нацыянальнай ідэяй — яна да нічога не прыводзіць. Дзеля чаго мы, сябры, сустракаемся — каб пагаласкаць, пакрычаць, папець песні, папіць гарэлкі — толькі дзеля гэтага? Патрэбны сур'ёзныя праграмы дзеяння, пошук эканамічных, рынкавых сувязей, пошук грошай. Гэта магло б паспрыяць сур'ёзнаму пад'ёму ў культуры, у мастацтве. Трэба працаваць сумленна і рабіць якасны **тавар**, каб яго захацелі людзі прыдбаць. Паказаць свету вартаснае. Цяпер, каб не тая эканамічная і палітычная сітуацыя, Беларусь магла б быць Прагай, Варшавай, Парыжам. Такога ўзрыву андэрграўнда, такой колькасці адораных людзей даўно ў нас не назіралася!

***— Жадаем Табе, Сяргей, каб ты не мусіў „прадавацца", а ўдалося табе ствараць каштоўнае і вартае ўвагі не толькі для беларусаў.***

# Дэманстрацыі будуць нелегальнымі

27 студзеня свабодныя прафсаюзы Беларусі арганізавалі дэманстрацыю супраць эканамічнай палітыкі Лукашэнкі. На вуліцы Мінска выйшла некалькі тысяч людзей. Няшмат як на амаль двухмільённы горад, але калі ўлічыць, што яшчэ два месяцы раней на такія дэманстрацыі прыходзіла толькі пару соцень чалавек, студзеньскую акцыю прафсаюзаў можна лічыць удалай.

Дзень раней аднак прэзідэнт паклапаціўся, каб у будучыні ніхто больш не парушаў яго добрага самаадчування пратэстамі. У савецкай рэчаіснасці ўсе былі задаволены і нікому ў галаву не прыходзіла праяўляць нейкія непрыхільныя жэсты супраць улады. Таму і лагічна, што вяртанне ў тую слаўтую эпоху агульнага шчасця і дабрабыту абазначае рэканструкцыю ўсіх элементаў мінулай сістэмы. 26 студзеня мінскае тэлебачанне аб'явіла, што прэзідэнт падрыхтаваў дэкрэт аб перарэгістрацыі партый і прафсаюзаў у Беларусі. Партыя, каб магла быць зарэгістраванай, а пасля легітымна дзейнічаць, павінна налічваць найменш 1000 членаў. Прафсаюзам кіраўнік дзяржавы быў больш ласкавы — ліміт членаў вызначыў на 500 чалавек. Аднак у прадпрыемствах незалежная прафсаюзная арганізацыя толькі тады можа пачаць дзейнасць, калі найменш 10 працэнтаў працоўных стане яе членамі.

На практыцы дэкрэт прэзідэнта праўдападобна абазначае дэлегалізацыю большасці партый і свабодных прафсаюзаў. Усе незалежныя арганізацыі ў Беларусі ад некалькіх гадоў дзейнічаюць у такі спосаб, што адкрытую актыўнасць праяўляюць толькі іх кіраўнічыя органы. У сітуацыі, калі працу і плату даюць амаль выключна дзяржаўныя ўстановы, прыхільнікам апазіцыйных арганізацый даволі рызыкоўна праяўляць свае палітычныя погляды. На гэты страх разлічвае Лукашэнка. Мала будзе такіх, якія дадуць згоду, каб іх імя, прозвішча і подпіс у падтрымку апазіцыйнай партыі трапілі ў рукі прэзідэнцкіх чыноўнікаў. Большасць звычайных людзей перш за ўсё падумае тады пра сваю сям'ю. Цяжка таксама сабе ўявіць, каб ва ўмовах існуючага рэжыму рабочыя ў дзяржаўных прадпрыемствах падтрымалі незалежныя прафсаюзы, рызыкуючы страту месца працы.

Такім чынам, праўдападобна, неўзабаве большасць існуючых апазіцыйных партый і арганізацый стане незаконнымі, таму што не будуць у змозе выканаць патрабаванні прэзідэнцкага закона аб перарэгістрацыі. А тады — у адпаведнасці з законам — кожная іх дзейнасць можа стаць праявай жульніцтва. **(ям)**

# Польскія сяляне ў беларускім тэлебачанні

Некаторыя гавораць, што мінскае тэлебачанне глядзяць толькі мазахісты. Зусім з гэтым не пагаджаюся. Тамашнія журналісты працягваюць найлепшыя традыцыі сацыялістычнай службы грамадству. Сваёй працай спрыяюць добраму самаадчуванню грамадзян рэспублікі. Пасля інфармацыйнай праграмы „Панарама" кожны беларус ведае, што ў яго краіне ўсе справы ідуць у добрым напрамку, што ўлады клапоцяцца пра штодзённыя праблемы звычайных людзей, што прэзідэнт выдаў чарговы дэкрэт, які ўчыніць яго жыццё яшчэ больш шчаслівым. Ёсць, аднак, у Беларусі нейкія змрочныя сілы, якія імкнуцца запіхнуць краіну ў еўрапейскае пекла. Але нічога такога не здарыцца, — пераконвае беларускае тэлебачанне, — таму што канстытуцыйнага парадку ў Беларусі бароніць сам Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

Менш шчасця чым беларусы мелі грамадзяне Польшчы, якіх улады здалі пад панаванне еўрасаюзных чыноўнікаў. 26 студзеня, напрыклад, мінскае тэлебачанне паказала блакіруючых дарогі сялян, якія да камеры крычалі: „Мы хочам хлеба!", „Хопіць гэтай Еўропы!", „Патрабуем вярнуць эканамічныя сувязі з Беларуссю і Расіяй!" Беларускаму гледачу цяжка, аднак, было з паказанага зарыентавацца супраць чаго пратэставалі польскія сяляне. Лозунгі маглі ўнушаць, што хлеб забрала ім Еўропа, і што спадзяюцца яны яго атрымаць з Беларусі ці Расіі. Тэлебачанне паказала, як польскія ўлады, якія прывялі сялян да такога жахлівага стану, кінулі на пратэстуючых бранявікі. Капіталізм — як выразна было відаць у рэпартажы з Польшчы — яшчэ раз прадэманстраваў сваё нечалавечае аблічча. Кожны калгаснік, які глядзеў гэтую праграму, мог сабе падумаць: „Як добра, што мы не пайшлі ў тую Еўропу. Усё дзякуючы нашаму прадбачліваму прэзідэнту".

Пасля няспыннага марафона амерыканскіх баевікоў і ўсялякіх „ток-шокаў", шмат хто з беларусаў Беласточчыны, праўдападобна, таксама ахвотна пераключыў бы тэлевізар на Мінск. Невядома толькі чаму адміністрацыя беластоцкіх жыллёвых кааператываў рашуча адмаўляецца падключыць беларускае тэлебачанне да тэлевізійнай сістэмы паасобных кварталаў. Напэўна мела б яно больш гледачоў чым нейкія каналы „Questv", „Hallmark", „Cartoon" ці „HBO", а прытым адным выдатна ўзбагачала б грамадскую і палітычную думку, другім — стварала б знакамітую штодзённую экскурсію ў савецкую прастору.

**Яўген Мірановіч**

З раённага агляду беларускай песні ў Беластоку

# Тое, што ў сэрцы

Міла ізноў пабываць сярод людзей, якіх ведаеш здаўна, пра каго пісаў і чые юбілеі святкаваў разам з імі. Ёсць з кім і пра што гаварыць: тут жа і беластоцкія спевакі, якія ахрысціліся „Крыніцай" і адсвяткавалі нядаўна сваё пятнаццацігоддзе, а Пятро Крук з гэтай нагоды напісаў нават верш „Крыніца радасці"; і неўміручы гарадоцкі калектыў, якому неўзабаве сорак пяць; і дваццацігадовыя „Журавінкі" з Агароднічкаў; і цалкам яшчэ малады калектыў з Козлікаў, і славутыя „Хлопцы-рыбалоўцы". І ў кожнага з іх свае справы, свае праблемы, а ўсіх іх яднае адно — замілаванне да роднай песні.

Але бачу на сцэне і новыя інструментальна-вакальныя калектывы: „Прымакі", „Казанова", „Лідэр", „Капры", „Дэбэст". Амаль усе яны з Беластока і згуртоўваюць моладзь. Тое, што яны размнажаюцца ў такім тэмпе, сведчыць аб запросе на беларускую песню ў маладым асяроддзі. І нават не важна, дзе калектывы будуць яе прэзентаваць — на вяселлі ці на ёлцы, важна, каб наша песня жыла. Здаецца, што ў гэтай справе дазволены ўсе сродкі.

Сярод гэтых гурткоў, несумненна, вылучаецца калектыў „Прымакі". Юрка Астапчук (студэнт Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі) мне ахвоча расказвае пра яго. Учора вось, кажа ён, мы ігралі на ёлцы, якую наладзіла фірма „Nicom". Былі там і людзі з Беларусі. Яны мне сказалі: „Тое, што вы іграеце і спяваеце, вельмі добра, але гэта ў нас ужо мінула, усё ідзе да Захаду!" Я заўсёды думаў, што я беларус і сталіца майго сэрца за мяжой. Дык я ў іх так проста і запытаў: „А што ў сэрцы, гэта не важна?!" Дык што, цяпер не ездзіць на Беларусь з гэтымі песнямі?.. Хаця, праўду кажучы, былі мы ў Мазыры. У сваім жыцці я нідзе не бачыў такой гасціннасці, з якой сустракалі нас там. Ну, дык вырашылі мы ўсё роўна рабіць сваё. А зрэшты, усміхаецца Юрка, бацька мне заўсёды паўтарае: „Рабі тое, што ў цябе ў сэрцы!"

А ці ж лёгка рабіць сёння „тое, што ў сэрцы?" З „культурай", самі ведаеце, як у нас цяпер на вёсцы. Зрэшты, як і ўсюды. Людзі больш пра хлеб думаюць, а ўладам гэта і лепш: не трэба думаць пра датацыі. Памаленьку людзі адвыкаюць ад культуры. Во, расказваюць спявачкі з „Журавінак", супрасльскі бурмістр Марэк Шутко быў на сустрэчы ў Агародніčках, і нехта з „Журавінак" запытаўся: „А што будзе з культурай?" Ну, сказаў бурмістр, нарэшце дачакаўся, бо дагэтуль пра яе ніхто нідзе не запытаўся.

Хацелася б верыць, што яго захапленне не будзе толькі абалонкай, і „Журавінкі" гэта ўрэшце адчуюць, бо папярэдняя бурмістрыня выдзеліла ім калісь датацыю, якой хапіла ўсяго... на вяночкі.

І ў Заблудаўскай гміне войт Мечыслаў Ладны прыхільны да нас, да беларускай культуры, падказвае Ліда Мартынюк, кіраўнічка Дома культуры ў Рыбалах. Хаця сам ён паляк, так і сказаў: „Што, калі яны беларусы, дык мы ім усё забярэм?!" Бойка пакуль што спяваюць „Хлопцы-рыбалоўцы", хаця чацвёра з іх захварэла і не прыехала. Але і так іх васьмёра. Разам з дарослымі (і бацькам) спявае Марэк Шыплюк, пятнаццацігадовы вучань прафесійнай школы ў Беластоку.

Прыбылі дзве „новыя сілы" „Расспяванаму Гарадку": Марыя Врублеўская і Галіна Хшаноўская. Марыю Врублеўскую агітавалі гады два Галіна Ляховіч і Сцяпан Копа. Урэшце, кажа яна, я адважылася: наймалодшаму з трох сыноў ужо споўнілася пяць гадкоў. Марыя паспявала месяц — і адразу ўзялі яе ў салісткі, жартуюць сяброўкі. Пасля перапрашаюць і ўдакладняюць: яна ў нас спявала ўжо, пакуль не выйшла замуж, зрэшты, яе голас усе ведалі, калі была яна яшчэ ў школе.

А Ніна Цыванюк? Праспяваўшы сола дзве песні „Бяседная" і „Адлёт жураўлёў", яна вельмі нервавалася, што „ўзяла заніzка", а тут на табе — першае месца! Ой, каб вы ведалі, якія старыя гэтыя песні! Абедзве! — Ніна Цыванюк выразна ўзрушаная. Гэта нашы мясцовыя песні, свае. Я іх навучылася яшчэ ад сваёй бабкі, кажа яна.

Цікавай з'явай на раённым аглядзе беларускай песні ў Беластоку былі выступленні жаночага калектыву з Малых Фальваркаў. Ну, вось жа і прыехалі яны на конкурс. А ў каталіцкім жа асяроддзі вядома як. Во польскую песню заспяваць — то гэта гонар, а сваю, тутэйшую? — А ну яе!

На шчасце, жанчыны з Фальваркаў так не думаюць. Хаця жывуць усе як адна на хутарах, кожны тыдзень збіраюцца то ў адной, то ў другой хаце і праводзяць рэпетыцыі. У гэтых жанчын цудоўная беларуская мова. Спяваюць яны, а кіруе калектывам Мечыслава Турасенская.

Як заўсёды, прафесійна спявалі беластоцкі хор „Крыніца" з усімі яго адгалінаваннямі — жаночай і мужчынскай групай, а таксама маладзёжны калектыў „Каласкі" пад упраўленнем Алы Дубец.

Шкада, што сама яна не спявала, ды не спявала яе мама Люба Гаўрылюк. У іх якраз была жалоба па бацьку і дзеду.

І яшчэ было шкада, што не было калектыву з Паўлаў і Меляшкоў. Пахварэлі ўсе ці лянуюцца?..

Доўга пасля яшчэ гралі і спявалі „Прымакі", калектыў з Рыбалаў і Малых Фальваркаў, а людзі падспявалі ім і танцавалі. Ала Дубец не вытрымала і пачала падыгрываць жанчынам з Фальваркаў на акардэоне. На іх тварах я бачыла радасць.

Спрытна вяла агляд 31 студзеня на Варшаўскай Эва Ласкевіч, студэнтка юрфака Гродзенскага універсітэта.

**Ада Чачуга**

# Бельскія элімінацыі



*„Маланка" перад выхадам на сцэну.*

30 студзеня 1999 года ў Бельскім доме культуры праходзілі раённыя элімінацыі Фестывалю „Беларуская песня '99", у якіх прынялo ўдзел васемнаццаць выканаўцаў.

Першымі выступалі салісты, групы з некалькіх спевакоў і калектывы, якіх арганізатары ўключылі ў катэгорыю аўтэнтычнага фальклору. Першае месца сярод салістаў, якія прэзентавалі аўтэнтычны фальклор, выспяваў Аляксандр Раманюк з Дубяжына і з песняй „Па садочку хадзіла" паедзе на цэнтральны агляд. „Я ад самага пачатку аглядаў выступаю, з перапынкамі, калі памерлі бацькі", — гаварыў узрадаваны пераможца. Песню „Тумба" ў час наступнага этапу спяваць будуць „Красуні" з Краснага Сяла, якія перамаглі ў катэгорыі аўтэнтычных фальклорных груп. Адзіныя сярод аўтэнтычных фальклорных калектываў жанчыны з Маліннік занялі трэцяе месца. Пасля наперамен паказваліся на сцэне выканаўцы апрацаванага фальклору і сучаснай песні. Дзесяць дзяўчат з вакальнага калектыву „Дзявочыяноткі" з Беларускага ліцэя заспявалі песні „Спатканне" і „Каліна".

— У цяперашнім саставе спяваем мы ўжо ад пачатку вучобы ў белліцэі, — кажа Каміля Масальская з „Дзявочых нотак". — Сустракаемся мы два разы ў тыдзень, а цяпер, у час зімовых канікулаў, амаль штодзённа. Працуем са спадарыняй Юстынай Пажазінскай з Дому культуры і нашым мастацкім кіраўніком, дырэктарам Сяргеем Лукашуком. У мінулым годзе выступалі мы ў сваім ліцэі, ездзілі на фэст у Гайнаўку, паказваліся ў Бельскім доме культуры і гарадскім амфітэатры, а найчасцей выступалі з беларускай эстраднай песняй.

— На сёлетні Фестываль апрацавалі мы старыя песні і падабралі адпаведную музыку, — гаворыць Юліта Такарэўская, якая выступала таксама як салістка. — Свае песні „Матылі" і „Без цябе" падабрала я сама, а пабачым, які будзе вынік.

Рэзультат быў добры, бо з сучаснай песняй дзяўчаты з бельскага белліцэя былі першымі, а Юліта Такарэўская — другая са сваёй школьнай сяброўкай Аннай Хадакоўскай.

У групе апрацаванага фальклору перамаглі адпаведна салістка Святлана Кобус з „Маланкі", калектыў „Родына" з Дубяжына, вакальна-інструментальны калектыў „Маланка" і жаночы хор „Васілёчкі". Усе іншыя ўдзельнікі, якія выступалі ў розных катэгорыях апынуліся на другім або трэцім месцах і ўсе паедуць на цэнтральныя элімінацыі ў Беласток. У гэтым годзе ў Бельску-Падляшскім выступалі жанчыны з Дабрывады, якія раней заўсёды спявалі на гайнаўскіх элімінацыях, але і тут выспявалі другое месца. Калі выступаў калектыў „Маланка", можна было заўважыць у зале ажыўленне. Відаць было, што карыстаецца ён асаблівай папулярнасцю сярод бяльшчан. Гурт „Маланка" іграў і спяваў таксама і для тых, якія чакалі конкурсных вынікаў.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

З агляду „Беларуская песня '99" у Бельску

# Адны слухалі, другія драмалі

Пра тое, што мае адбыцца раённы агляд беларускай песні ў Бельску, я пачула па беластоцкім тэлебачанні і ў беларускай радыёперадачы на некалькі дзён раней.

30 студзеня 1999 года а гадзіне пятнаццатай сорак пяць я была ўжо ў зале Бельскага дома культуры. Прыйшла крыху раней, бо баялася, што людзей прыйдзе многа і я не знайду сабе месца.

Памятаю, што калі я яшчэ не была студэнткай, а была дома ў Бельску і вучылася ў сярэдняй школе, мы з мамай часта хадзілі на агляды беларускай песні і заўсёды стараліся прыйсці раней, бо інакш у залу не ўдалося б убіцца.

Думала я, што і на гэты раз убачу натоўп людзей у Доме культуры, а тут на табе... было занята ўсяго пяць першых радоў. З магнітафона затое ліліся вядомыя і модныя сярод нашых людзей песні. У мяне адразу падняўся настрой, калі я пачула іх. Чакала я з нецярплівасцю, калі гэтых песень будзе больш і будуць іх прэзентаваць жывыя людзі, а не магнітафонная касета.

А шаснаццатай нуль пяць на сцэну на чарзе выходзяць дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук і пасол Сейма РП Ян Сычэўскі, каб урачыста абвясціць пачатак фестывалю. Я думала, што фестывалем пачалі называць толькі цэнтральны агляд у Беластоку, аказваецца, цяпер і раённыя агляды гэта фестываль.

Першы выступіў калектыў „Арлянкі" з Орлі, пасля спявалі „Бярозкі" з Кнарыд, „Красуні" з Краснага Сяла і г.д. Недзе каля гадзіны семнаццатай у зале ўжо можна было заўважыць, што людзі стаміліся і нудзяцца на канцэрце. Некаторыя нават задрамалі, уздымаючы ад часу да часу галовы, калі гучным трэскам давала аб сабе знаць апаратура, гатовая, здавалася, вось-вось закончыць сваё працоўнае жыццё.

Не запярэчу, цікавыя былі аўтэнтычныя старыя песні, якія спявалі вясковыя калектывы з ваколіц Бельска. Яны былі натуральныя і выконваліся без акампанементу. Словы песень падкрэслівалі, наколькі моцная была калісьці сувязь чалавека з прыродай.

Нягледзячы на гэта, сярод сабраных адчувалася расчараванне. Замест прасякнутых настальгіяй фальклорных песень, сабраныя як бы чакалі больш аптымістычнага і разаграваючага душу рэпертуару.

Зала значна ажывілася, калі выступала Святлана Кобуз — салістка калектыву „Маланка". Калектыў Сяргея Лукашука наогул спявае і грае так, што ногі самі ідуць танцаваць. Я заўважыла, што частка прысутных ужо на памяць ведае песні „Маланкі". Песню „Ехаў Ясь на кані" зала спявала разам з калектывам.

Нарэшце запоўнілася ўся зала: на сцэне паявіліся вакалісткі з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Тарашкевіча, і, відаць, сябрына прыйшла паслухаць іх выступленне.

І мне таксама найбольш спадабалася сучасная беларуская песня, а найбольш — у выкананні Анны Хадакоўскай. Шкада толькі, што ў гэтай катэгорыі выступіла так мала салістаў. Няўжо няма выканаўцаў?!

А наогул то я маю прапанову. Мо варта зрабіць два асобныя агляды ці фестывалі беларускай песні: адзін — фальклорнай песні, а другі — сучаснай. І хто ведае, ці не стала б тады ўсё на сваё месца.

**Анна Артэмюк**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Мікалай Лук'янюк**

### *Пеця*

Запытаў настаўнік Пецю:
— Што чуваць цяпер у свеце?
Пеця яму адказаў:
— Белы снег у нас упаў,
Заўтра я пайду на санкі
На апошнюю гулянку.
Мы праедземся гурбою,
Развітаемся з зімою.
Пытанне наступнае Пеці:
— Што будзеш рабіць ты ў леце?
— Пайду я на луг за вёскай
З сястрычкай кветкі збіраць.
Дарослыя ўсе — на палосках,
Мы будзем дом пільнаваць.



*Выдатнікі з IV „ц" бельскай „тройкі".* Фота Ганны Кандрацюк

## *Вершы Віктара Шведа*

### *Падобны на бацьку*

Лае маці свайго сына Вацка:
— Ты мяне на смерць ужо зарэжаш!
Штораз больш падобны ты
на бацьку:
Абібок, лянівы і гарэзта.

Ты расцеш страшэнным хуліганам!
Кім ты у жыцці, цікава, будзеш?
Адазваўся бацька знерваваны:
— А што ён ізноўку напракудзіў?

### *Будзе на двары цяплей?*

Наступілі асеннія дні,
Зноўку нашая з восенню стрэча.
— Мой сыночак, акно зачыні,
За акном зноў царыць халадэча.

Нечакана цікаўны Андрэй
Запытанне дае сваёй маці:
— А ці будзе навонкі цяплей,
Як акенца зачынім у хаце?

# *Любчыны прыгоды*

***(амаль дзённік)***

**Як татка сваю дачушку пазнаў**

Як даведаўся татка, што ў яго дачушка нарадзілася, дык ён яе адразу Любачкай назваў. Ні кропелькі не думаў. Бо якое ж другое імя даваць, калі дачушка адзіная ды любая. Вядома — Любачка!

Але ж не аддаюць яе татку: трэба, каб падужэла яна трошкі, падрасла, а тады ўжо. Дык бацька ходзіць па вуліцах і, весткі чакаючы, песні спявае. Нат і ўголас. Людзі пазіраюць на яго і дзівяцца — звязнеў чалавек! — А яму што: ідзе і спявае! А то ўсміхаецца сам сабе, ды так, што адразу відаць — радасць нейкая ў чалавека. А чаму не ўсміхацца, калі дачушка ў яго з'явілася, Любачкай клічуць, га?

І вось пазваніла ўвечары Любчына мама і кажа:

— Забірай нас заўтра, татачка!

Татка пакунак, даўно нарыхтаваны, у торбу, кветак купіў, хоць забараняюць іх туды насіць, але якое ж свята без кветак! А не матулі, дык таму аддасць, хто яму дачку вынясе.

Прыйшоў. Ісці блізенька было — тры кварталы ўсяго. Меркаваў — калі першым з'явіцца, дык першымі і выпішуць. А ў раддоме свая завядзёнка: спачатку з ніжніх паверхаў выпісваюць, а потым з верхніх. А Любачка з матуляй — ажно на пятым.

Сядзіць татка і чакае.

Усяго нагледзеўся: і таго, як малады бацька не ведае, да каго перш кінуцца — ці да жонкі, ці да немаўляці, — і таго, як нязграбна — вопыту, пэўна, нямашака, — бярэ ён сваімі дужымі бацькоўскімі рукамі маленечкае птушанятка, загорнутае ў пялюшкі ды коўдрачкі, і, несучы яго, ажно пацее, нібыта ў руках — не пушыначка, а паўнюткі мех пшаніцы. Дзіва, што ў пот кіне!

Сядзіць татка, пасміхаецца: ён — не гэтакі няўмека: сясцёр сваіх ды брата змалку няньчыў, — чаго яму хвалявацца?! А калі сказалі, што выпішуць сёння, то так яно і будзе.

І раптам затрымка нейкая — застапарыўся канвеер раддомаўскі: другі і трэці паверх выпісалі, а з чацвёртага — нікога.

Татка пахадзіў па пакойчыку, нават на вуліцу выпаўз — смальнуў разы два, ды хуценька і прытушыў цыгарку: Любачку вынесуць, дык ён што — смуродам на яе дыхаць будзе?! Барані Бог!

Вярнуўся, трохі прысеў — і раптам чуе: за дзвярыма, дзе немаўлят спавіваюць, галасочак нейкі такі патрабавальны і як быццам знаёмы.

То гэта, мабыць, Любачка, ускапіўся татка, слых навастрыў, а тады чуе — і матуля голас падае, дачушку суцішае, дык ужо і не хвалюецца: ведаў — зараз вынесуць!

Рыпнулі дзверы — і акурат яны! Матуля схуднела, а Любачка...

Аддаў тата кветкі — не помніць ужо і каму, — пацалаваў матулю ды хутчэй Любачку на рукі! Не стрымаўся, зірнуў на тварык — і ўсе яго трывогі як рукой адняло: дальбог, яна! Любачка! Якраз гэткая, якую, невядома як, амаль наяве бачыў! І якую чакаў!

Прытуліў асцярожненька да грудзей і спытаў хітравата: „А як жа гэта, Любачка, голас я твой пазнаў?"

А Любачка вочкі расплюшчыла, зірнула на татку і ні капачакі не спалохалася — ён гэта, татка мой! — нібы таксама даўно яго ведала. Пазяхнула разочак і... зноў заснула.

Усю дарогу спала, пакуль бацька яе дахаты нёс.

Каб вы ведалі, як яны цяпер сябруюць: татка, матуля і Любачка!

*(працяг будзе)*

**Анатоль Кірвель**



*Дзеці з Нараўкі.* Фота Ганны Кандрацюк

# *Польска-беларуская крыжаванка № 7*

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 3:** Арол, карнавал, рэклама, жах, нацяжка. Баран, рэха, банк, ралля, мова, лам, лапа.

Узнагароды — **аўтаручкі** — выйгралі: **Аня Васілюк** з Відава, **Уршуля Гегель** з Гарадка, **Анэта Таранта** з Бельска-Падляшскага і **Анна Каліноўская** з Махнатага. Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Pobyt | ▼ | Piętro / Giełda | ▼ | Nerka | ▼ | Obława |
| ► | | ▼ | | | | ▼ |
| Wir | ► | | | Juka | | |
| ► | | | | | 📖 | |
| Siarka / Rdza | ► | | | 📖 | 📖 | |
| Cholewa | ► | | | | | |

# Умееш лічыць — разлічвай на сябе

**З Міхалам МІНЦЭВІЧАМ — журналістам, мастаком і радным гутарыць вучаніца VIII класа ПШ у Орлі, намеснік галоўнага рэдактара „Ścieków” Сільвія Шыманская.**



***— Што захапіла Вас у працы фатографа?***

**Міхал Мінцэвіч:** Фатаграфія ёсць універсальным пераказам жыцця — гэта вобраз чалавечых пачуццяў спыненых у часе. Дзякуючы фотаздымкам можам рэалізаваць свае псіхічныя і інтэлектуальныя патрэбы. Шпацыр па нашай мясціне ці вандроўка па ўлонні прыроды з фотаапаратам дазваляе нам вярнуць спакой і сілу. Фатограф, як паляўнічы, ловіць сваю „звярыну” ў вока фотааб’ектыва. Чалавек з фотаапаратам мае сваю ролю ў грамадзе, гэта ён ставіць іншых да фатаграфіі, можа нешта вылучыць або не заўважыць. На вяселлі яго могуць палічыць важнейшым за маладога, а на экскурсіі — за экскурсавода ці шафёра. Фотаперадатчык можа зняць нешта непрыстойнае, таму трэба шукаць з ім добрых адносін. Фатаграфіяй пачаў я цікавіцца ў 12 гадоў. Ад некалькіх гадоў працую як фотарэпарцёр-аматар. Супрацоўнічаю з некалькімі часопісамі. Займаюся грамадскімі і культурнымі тэмамі. Фатаграфаванае штодзённае жыццё з часам набірае ўласцівасці гістарычнага дакумента. Найбольшае задавальненне прыносіць мне пераказ таго, чаго не відаць простым вокам. Шмат пішу пра балючыя справы, бараню пакрыўджаных.

***— Ці апрача журналістыкі і фатаграфіі ў Вас ёсць іншыя зацікаўленні?***

— Музыка — іграю на ўдарных інструментах. Мастацтва — малюю алеем карціны, аўтарскія і копіі. Думаю таксама пра разьбу і графіку. Люблю язду роварам і фізічную працу. Дапамагае мне гэта ў здаровым самадчуванні.

***— Ці ў школьныя гады думалі Вы пра сваю будучыню?***

— Сённяшнія мае зацікаўленні пачаліся ў маладых гадах. Пра маю адукацыю думалі бацькі, на жаль, мінулася яна з маімі зацікаўленнямі.

***— Вы падрыхтавалі выстаўку, прысвечаную 500-годдзю Орлі. Што было імпульсам?***

— Веданне мінуўшчыны дазваляе нам лепш зразумець сучаснасць. І ўва мне было такое жаданне, каб нешта зрабіць для сваёй мясцовасці, навакolля, прытым бескарысна. Проста я, як жыхар і грамадзянін Орлі, які шануе сваю зямлю, людзей, хацеў, каб пра нас пачулі іншыя. У нас багатая гісторыя і традыцыя, якой мы павінны ганарыцца.

***— Як доўга Вы рыхтавалі выстаўку?***

— Трэба было адвесці ёй многа гадоў працы і пошукаў.

***— Нядаўна Вас абралі радным. Што хочаце зрабіць для нашай гміны?***

— Як радны, думаю, здолею зрабіць для сваёй грамадскасці больш, нават у неспрыяльных абставінах. Грамадства Орлі ў самаўрадавых выбарах выявіла для маёй асобы давер, галасавала на мяне аж 247 выбаршчыкаў, другі пасля мяне кандыдат набраў на 100 галасоў менш.

***— У сваёй газеце „Zza ławy radnego” Вы пішаце пра выбары войта. Ці ў газеце будуць адно інфармацыі звязаныя з палітыкай?***

— Да гэтай пары грамадства Орлі не ведала, што дзеецца ў гміне. „Zza ławy radnego” гэта часопіс, які інфармуе пра працу нашага самаўрада і будзе выходзіць пасля кожнай сесіі. Калі будуць такія патрабаванні, выйдзе спецыяльны нумар. Неўзабаве пакажацца іншы часопіс — „Арлянскія навіны”.

***— Які Ваш самы вялікі жыццёвы поспех?***

— Поспех і крах — справы адносныя. Трэба проста рабіць сваё. Дарыць людзям радасць — гэта дар ад Бога і ім трэба дзяліцца, захоўваць яго. Сваім поспехам лічу несумненна тое, што сваімі допісамі і рэпарцёрскай працай я знайшоў кантакт з чытачом, што мае перажыванні і бачанне свету знаходзяць зразуменне і акцэптацыю іншых. Поспех у жыцці можа прыдбаць толькі той, хто любіць сваю працу.

***— Тры Вашы жаданні для залатой рыбкі?***

— Хацеў бы зноў адчуваць сябе як вучань восьмага класа. Хацеў бы быць вашым настаўнікам і ставіць вам процьму шасцёрак. Хацеў бы пра вас напісаць у газеты, з якімі супрацоўнічаю ды зрабіць вам прыгожы каляровы здымак.

***— Ваша жыццёвае крэда?***

— Умееш лічыць — разлічвай на сябе.

# Дарагая „Зорка”!

На ўроках беларускай мовы мы гаварылі пра свята, ёлку, Дзеда Мароза і падарункі.

Кожны з нас намаляваў падарунак, які атрымаў ад добрага Дзеда Мароза.

**Вучні IV „б” класа з Нараўкі: Оля, Оля, Агата, Эмілія, Паўля, Марта, Кінга, Арэк, Крыстафор, Рафал і Караль**









# Гайнаўскі голас

Пад такім лозунгам 29 студзеня 1999 года ў Гайнаўскім доме культуры адбыўся канцэрт беларускіх маладзёжных калектываў, арганізаваны Брацтвам праваслаўнай моладзі Свята-Троіцкага сабора і ГДК, на якім прысутны былі, між іншым, епіскап Міран і гайнаўскія свяшчэннікі. Усё пачалося з малебна.

Першым выступіў рок-гурт Гайнаўскага белліцэя, у школе вядомы як „Банан", хаця на сцэне называлі яго „Казакамі". Вакалістка Кася Сапяжынская і чатырох хлопцаў: Марцін Харкевіч, Тамаш Сцепанюк, Павел Алесюк і Караль Вакулюк выступалі ўжо ў ГДК восенню, разам з іншымі вучнямі белліцэя. У час канцэрту заспявалі яны спачатку вядомую песню „Касіў Ясь" і апрацаваныя „Вампір", „Трах" і „Гарэлка", а пасля паўтарылі свае песні з восеньскага выступлення.

— Выконваем мы ў галоўным рок-музыку, але моцную — рэдка. Апрацоўваем таксама фальклорныя песні, якія спявалі нашы бацькі, або апрацоўваем па-свойму папулярныя беларускія песні з касет, — кажа Кася Сапяжынская.

Вядучыя Эмілія Троц і Павел Болтрык паінфармавлі, што па розных прычынах многія выканаўцы не даехалі. Не падвялі братчыкі з Бельска-Падляшскага і Беластока. З Бельска прыехалі таксама Дарафей Фіёнік з жонкай Альжбетай і сястрой Аняй. Спачатку Д. Фіёнік заспяваў пад гітару аўтарскую песню „Аўтобус у Белавежу" і некалькі народных. У сувязі з пяцьдзесят трэцяй гадавінай забойства жыхароў вёскі Заляшаны, выканаў ён аднайменную песню, у якой ўспаміналіся трагічныя падзеі пасляваенных гадоў. Затым на сцэну ўвайшлі Альжбета і Аня ды ўсе разам заспявалі яшчэ некалькі фальклорных песень.

Чакаючы наступных выканаўцаў, другі раз на сцэну ўвайшоў гурт з белліцэя і моладзь пачала гуляць. Затым танцы працягваліся пад гукі гурту „The Dvery".

— У верасні мінулага года запісалі мы на Радыё Беласток трынаццаць беларускіх твораў, па палове бардаўскай песняй і рок-музыкай, на кампакт-дыску. Працавалі мы ў студыі сорак гадзін, паколькі рэалізавалі дзве ўзнагароды, прысвоеныя нам на „Басовішчы" і „Бардаўскай восені", — кажа Марыюш Гарустовіч, які разам з Касяй Дробат, Маркам Дробатам і Андрэем Плевам займаюцца ў гурце „The Dvery". — У снежні 1998 года выступалі мы на беларускім канцэрце ў Варшаве, у студэнцкім клубе „Проксіма", аб чым і пісалі ў музычным часопісе „XL". У сваіх творах выкарыстоўваем вершы беларускіх паэтаў, а музыку складаем самі.

Позна прыехалі і апошнімі выступілі „Прымакі". Паказаліся яны тут з эстраднымі беларускімі песнямі.

— Песні гэтыя падыходзяць толькі да танцаў, — звярнула ўвагу адна дзяўчына.

— У ходзе канцэрту выконваліся, за невялікім выключэннем, толькі беларускія творы, бо хацелі мы прапагандаваць культуру нашых бацькоў. Спалучэнне польскай музыкі з праваслаўным мерапрыемствам было б крыху дзіўным, — кажа Юліта Антыпюк, старшыня Брацтва праваслаўнай моладзі Свята-Троіцкага сабора. — Хаця не даехалі нашы сябры з Супрасля і Гарадка, гулялі мы вельмі добра. Паколькі было гэта наша першае такое вялікае мерапрыемства, хацелі мы падзякаваць суарганізатару, дырэкцыі Гайнаўскага дома культуры, без якога не змаглі б мы наладзіць такой сустрэчы.

**Аляксей Мароз**

# Бібліятэцы — 50



*Гайнаўскія бібліятэкаркі: Эва Літвінец і Ала Грыц.*

Сёлета гарадская бібліятэка ў Гайнаўцы будзе святкаваць 50-годдзе свайго існавання. Цяпер яна мае добрыя жыллёвыя ўмовы ды сучаснае абсталяванне. У 1991 годзе ў бібліятэку купілі камп'ютэры. Заснавалі аддзяленне спецыяльных збораў — г.зв. рэгіяналіяў. Пачалі камплектаваць кніжныя выданні, газеты і часопісы, у тым ліку і „Ніву" ды паасобныя артыкулы пра гісторыю Гайнаўкі ды ўсяе Гайнаўшчыны, а таксама Белавежскай пушчы.

Зараз у бібліятэцы багаты збор старых карт, здымкаў ды рысункаў. У архіўных зборах можна знайсці публікаваныя матэрыялы пра славутых жыхароў Гайнаўкі, гайнаўскую тэатральную групу, гісторыю тамашняй аптэкі, мясцовай прафесійнай школы і г.д.

Заслужанымі для бібліятэкі з'яўляюцца Веслаў Стэмпнеўскі, Данута Сабалеўская, Тадэвуш Штукевіч, Вольга Адзіевіч і Яніна Якубовіч.

Зараз гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы мае 75-тысячны кнігазбор і каля 6000 чытачоў. У чытальні для дарослых пастаянна наладжваюцца выстаўкі фатаграфій і карцін, праводзяцца аўтарскія сустрэчы. Дырэктарам з'яўляецца Галіна Вайсковіч. **(гай)**

# Спорт і адпачынак

Ад 25 студзеня да 5 лютага, у час зімовых канікулаў, у гайнаўскім белліцэі арганізаваны былі актыўныя формы адпачынку, якімі пакарысталіся каля сарака вучняў.

У час школьных сустрэч ліцэісты найчасцей займаліся ў спартыўнай зале. Чатыры групы хлопцаў і дзяўчат ахвотна гулялі ў валейбол і баскетбол. Удзельнікі школьных каманд, карыстаючыся прысутнасцю настаўнікаў фізкультуры Ірэны Грыгарук і Рамана Данілюка, маглі нармальна трэніравацца.

— 14 студзеня г.г. арганізавалі мы ў нашым ліцэі навагодні турнір па валейболе як падрыхтоўку да Гімназіяды. Прымалі ў ім удзел вучні першых і другіх класаў чатырох школ і Комплексу эканамічных школ з Бельска-Падляшскага, Комплексу школ з Монек, Комплексу прафесійных школ з Гайнаўкі і з нашага ліцэя. Хаця першае месца заняў Комплекс прафесійных школ з Гайнаўкі, а мы апынуліся на апошнім месцы, спаборніцтва наша не пайшло ў пустую. Ужо ў час элімінацый да Ваяводскай гімназіяды вучняў I і II класаў, якія адбыліся 23 студзеня г.г. мы былі на II месцы і перайшлі да другога тура, а пераможца навагодняга турніру апынуўся на трэцім месцы, — кажа трэнер белліцэістаў па валейболе Раман Данілюк. — Цяпер, у час канікулаў, нашы валейбалісты могуць працягваць трэніроўку і іграць з іншымі.

Апрача гульняў вучні займаліся з настаўнікам Славамірам Чыквіным у камп'ютэрнай зале, слухалі лекцыі Аляксандра Лаўрыновіча аб шкоднасці алкаголю, а ў вольны час ігралі ў настольны тэніс.

— У час заняткаў з кам'пютэрамі вучні могуць дакладней засвоіць тое, чаго не зразумелі раней. Вучні іграюць таксама ў розныя гульні і знаёмяцца з новымі праграмамі або глядзяць, што новага дзеецца ў нейкай краіне, — кажа настаўнік Славамір Чыквін. — Больш здольныя вучні могуць карыстацца Інтэрнэтам толькі на адным камп'ютэры, бо астатнія ў нас ужо ўстарэлыя. Калі б былі нейкія сродкі, добра было б памяняць іх на новыя.

**Аляксей Мароз**

У тэатры А. Вянгеркі

# Перад прэм'ерай

У аднаўленым фае тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку 2 лютага адбылася першая ў гэтым годзе прэс-канферэнцыя.

Нягледзячы на познюю паабедзенную гадзіну, у тэатры працавалі будаўнікі. Усюды гарэла святло. У вестыбюлі і ў вялікай зале тэатра нехта яшчэ нешта падмалёўваў, дарабляў. Зззялі блакітам навенькія крэслы для гледачоў, так і хацелася на іх прысесці ўжо цяпер, у гэты момант.

Пытанні, якія задавалі беластоцкія журналісты з прэсы, радыёвяшчання і тэлебачання, датычыліся перш за ўсё прэм'еры спектакля Вітальда Гамбровіча „Івона, бургундская прынцэса", якая мела адбыцца 6 лютага г.г., на адрамантаванай вялікай сцэне тэатра.

Рэжысёр спектакля Вальдэмар Сьмігасевіч з Варшавы даваў на пытанні найбольш грунтоўныя адказы. Дапамагаў яму ў гэтым сцэнограф Мацей Праер з Кракава, дырэктар тэатра Анджэй Кароляк і акцёры, прымаючыя ўдзел у спектаклі.

Рэжысёр В. Сьмігасевіч ужо трэці раз дае пастаноўку ў Беластоку. У кожным калектыве адзін і той жа спектакль выглядае інакш, сцвердзіў ён. Мяне цешыць, што людзі ў гэтым тэатры хацелі „згуляць" у гэты спектакль, бо тое, што атрымалася, гэта не мёртвы дыялог.

Рэжысёр не скрываў, што гэта п'еса цяжкая. І ролі таксама цяжкія. Сам шукаў ён людзей для гэтай пастаноўкі, памагаў яму дырэктар Анджэй Кароляк. Адна трэць дзеючых асоб тут — госці.

Ролю Івоны рэжысёр даверыў маладзенькай Юстыне Гадлеўскай, якая толькі сёлета заканчвае Тэатральную акадэмію ў Беластоку. Нам патрэбна была Івона з крэсаў — шчырая, наіўная, сказаў рэжысёр спектакля. Я баяўся надутых мін больш вопытных актрыс, і таму ўзяў дзяўчыну са школы. Уся справа цікавіла мяне праз гэту ролю.

Сама „Івона" не захацела гаварыць пра тое, што і як яны хацелі паказаць у спектаклі. Глядач сам ацэніць, сказала яна.

Дырэктар А. Кароляк выказаў сваю ўдзячнасць рэжысёру Сьмігасевічу, які для яго заўсёды быў найвялікшым аўтарытэтам. Гэта ён змяніў пагляд нашых акцёраў на сваю прафесію, сказаў дырэктар.

Без грошай (прызнана тэатру няцэлых сорак пяць працэнтаў мінулагодняга бюджэту), вядома, не ўдасца ўтрымаць высокі ўзровень у тэатры, наракаў дырэктар. Кожны рэжысёр перш за ўсё пытае: за колькі? Гэты не пытаў.

І так справы ад спектакля сышлі на бытавыя справы, паколькі, як сцвердзілі некаторыя, „быт кшталтуе свядомасць". Як ратаваць тэатр у цэлым? На Міністэрства культуры разлічваць нельга. Спонсараў няшмат. Грошай на зарплаты і ганарары ёсць столькі, каб заплаціць за студзень.

Цяжкое жыццё акцёра ва ўмовах вольнага рынку...

**Ада Чачуга**

# Падзяка

**Рада бацькоў**, якіх дзеці вывучаюць беларускую мову ў **Пачатковай школе № 11 у Беластоку**, выказваюць падзяку старшыні Беларускага саюза ў РП **Яўгену ВАПУ** і раднаму горада Беластока **Антону МІРАНОВІЧУ** за дапамогу ў прыцягненні фондаў. Дзякуючы атрыманым фінансавым сродкам мы змаглі наладзіць нашым дзеткам рытмічна-музычныя заняткі і сарганізаваць навагоднюю ёлку.

***Сардэчна дзякуем!***

# Да самае смерці

Бывае гэтак, што шукаеш, шукаеш, і знойдзеш тое шчасце. Іншы раз знойдзеш яго, здаецца, злавіў — і ўцячэ яно, бы вецер здзьмухнуў. А потым і не ведаеш, ці было яно, ці табе здавалася, снілася. А потым следам ідзеш, і на падобнае трапіш. А людзі кажуць: „Ніколі ты не бачыш добра, асляпленая любоўю, або за шчасце бярэш, што не тое!”

Алена Д. казала мне, што яна — шчаслівая. Мае дом, дзяцей, чалавека, які кажа ёй, што кахае...

Трапіла Алена першы раз на п’яніцу. Добры хлопец, казалі людзі. Маці крыху крывілася, што католік, але ўсё ж — абы добры чалавек быў. А які чалавек не выпівае? — Алена памятала гэта ад роднага таты.

Ясё піў, дзве левыя рукі ў яго аказаліся да работы, але біць то ўмеў — ого, на гэта то ён быў спец! Развялі Алену з Ясем, адабралі ў яго бацькоўскія правы. Але дамовілася Алена з былым мужам: каб не плаціць аліментаў, Адась будзе ў бацькі, а Юзя ў маткі. Адасем занялася цётка Адальфіна, татава сястра, вельмі богабаязная жанчына, бо з чаго ж бацька меў яго ўтрымаць? Вядома, на ўтрыманне братанка ўзяла грошы з кніжачкі, на якую Алена збірала малому на кватэру. Маці прапісала Адася ў сябе, у камунальнай кватэры, якую выстараўся ёй, выдатнай працаўніцы, сам дырэктар прадпрыемства.

Цяжка быць адной жанчыне. Маладая, вясёлая, увішная, такая танцорка! Не выбіў гэтага з яе муж! На дыскатэцы пазнаёмілася з Богушам. Такі стройны, размоўны. А тая яго шляхетная краса! Толькі ў кіно здымайся! Усюды з ім паказацца можна. Знаецца на ўсім, асабліва на юрыспрудэнцыі. Убачыла на плячах у яго татуіраваны знак „маёр”. Адседзеў быў восем гадоў за выпадкова ўчыненае забойства. Звольнілі яго раней, за беззаганныя паводзіны. Бывае ўсякае з людзьмі, і за нявіннасць саджаюць. А ён старанлівы такі, дбайны — сталі жыць разам, то адрамантаваў кватэру, як майстар найлепшы.

Нарадзілася Алене і Богушу Слаўка. Прозвішча даў ёй сваё. „Не існуе для яго нішто больш у свеце, апроч малое!”— цешылася Алена.

— Тата баксаваў маму, Юзю, Адася, толькі мяне і Аса не чапаў, — скажа праз чатыры гады Богушава дачка, кропля ў кроплю з твару — родны бацька.

Пра гісторыю сужыцця Алены і Богуша даведваўся я раней у беластоцкіх куратараў. Мелі ўстаноўленых абое. Яна, пабітая, паламаная, не раз званіла ў паліцыю на ратунак. Але гэта ён першы зайшоў у адпаведныя ўстановы шукаць праўнай дапамогі: не спраўляецца ягоная канкубентка з матчынымі абавязкамі. П’е, цягаецца. Вось самі бачыце, як выглядае: паабдзіраная, з перапітымі падсінелымі вачыма, упала на лесвіцы ідучы ў прытон... Паліцыянт пацвярджае: было так, пазваніў спадар Богуш на паліцыю, што жонка прапала, а ён вось мусіць займацца і яе дзецьмі, прыедзьце, парайце. Ну, як было, дзеці накормлены, памытыя, ляжалі ў пасцелі, а ён сядзеў, кніжку чытаў, маці няма. Чыста ў хаце, кажа: „Сам усё папрыбіраў, бо яе няма ўжо тры дні”. Але ж суседзі бачылі: нядаўна трымаў яе за ногі, перакінутую за балкон, крычаў: „Я цябе, вар’ятка, выкіну зараз, а ўсе падумаюць, што сама забілася!”, а цяпер вось яна ў шкарпэтках бегае па снезе наўкол блока, да хаты ўвайсці баіцца. Але на паліцыю суседзі ісці не хочуць, хто хоча, каб яго цягалі па судах; яшчэ зноў ён „выпадкова” каго заб’е?!.

Грамадскі куратар Богуша пан С. сказаў: „То ж відна, як пані Алена выглядае. Неўрозная. Твар як у люмпенкі, знішчаны, уся паабівана, хоць, праўда, адзетая заўжды чыста, акуратна. Дзеці дагледжаныя, але заўважаем па іх паводзінах кепскі ўплыў сям’і. А пан Богуш — як жа ён выказваецца, як дбае пра дзяцей, пра дом! Колькі ў ім самаахвярнасці! Як ён можа вытрымаць з такою жанчынай!”

Вядома, не казаў пан Богуш куратару, што так ненавідзіць сваю сяброўку, што гатовы яе забіць. А абяцаў ён гэта на кожным кроку. Казаў гэта ўсім — і радні сваёй, і жончынай, і на вуліцы. Але ўсё ж жылі разам. Усе дзівіліся: чаму ж яна яго не кіне, або ён яе, калі так яму не падабаецца? Калі яна кепская матка для яго дзіцяці, няхай дакажа гэта ў судзе і забірае малую. Урэшце знайшоў працу, матка памагла б. Але маці Богуша: калі ласка, час ад часу магу ўнучкай пазаймацца (калі Алена была ў санаторыі), але ні сына, ні яго дачку неахвотна буду трымаць у сябе дома. І бацька таксама быў супраць (не раз яму сынок палічыў рэбры). Калі ласка, пазычым вам 50 мільёнаў, каб даплаціць да кватэры (Алена памяняла чыншовую кватэру на 70-метровую кааператыўную), але падпішы паперку, што „пасля маёй смерці кватэра застаецца канкубенту”. Грошы Алена вярнула з наддаткам, бо якраз прыватызавалі яе фірму, даклала і да машыны, якую Богуш купіў на сябе. Але паперка ў маці засталася, з усёй моцай дакумента, пацверджанага ў натарыуса.

А тая паперка мае сёння значэнне. Так як і тая, у якой тыдзень да сваёй смерці Алена перапісала страхоўку на сваё жыццё на дачку. Прадчувала, кажуць сваякі.

На апошняй судовай справе, у чацвер 20 лістапада 1998 г., якую ўрэшце адважылася закласці Алена Д., каб пакараць канкубента за здзекі над сям’ёй, юрысты пераканалі яе, каб адмовілася і адклікала свае паказанні, нягледзячы на медыцынскія пасведчанні. Затое канкубент забярэ свае рэчы і выселіцца з кватэры. Богуш вывез свае рэчы — мэблю, дыван, тэлевізар. Гэта было ў пятніцу. У нядзелю ўвечары пасля развітальнай вячэры, каля 1 гадзіны ночы, задушыў Алену Д. сабачай кальчаткай-ашыйнікам. Вочы нябожчыцы пахрысціянску літасціва зачыніў. Аголеную, з паламанай нагой і разбітай пашчэнкай маці раніцай знайшла дзесяцігадовая Юзя.

Пакуль быў выйшаў з дому, Богуш абшнырыў усю кватэру, забраў прыватызацыйныя чэкі, ашчадныя кніжкі, усе грошы і каштоўнасці, а таксама ўсе здымкі, на якіх быў. Думаў да раніцы апынуцца за мяжой. Падрыхтаваўся добра.

Не ўдалося. Раніцай ягоны партрэт быў вядомы на граніцах і ўсім паліцыянтам (на здымку меў яго афіцэр паліцыі, з якім былі калісьці на вяселлі). Тыдзень скрываўся, затым сам аддаўся ў рукі паліцыі. Плача, што не ён забіў каханую Аленку, што кахае яе і пасля смерці, а ўвогуле то ў розуме яму памуцілася...

Пахавалі Алену Д. роўна ў 36 яе гадоў і адзін месяц.

Хата Аленіна важная. Маці забойцы пытаецца, ці не дапамагчы яе сям’і аплачваць кватэру, бо ж яе сын вернецца, і дзе ж жыць будзе, як не там, дзе прапісаны?!

І дзеці важныя. Юзю ўзяла набожная цётка Адальфіна, і штораз папракае: „Ты курва, так як і твая матка! Трэба было ёй кідаць Яся?!” Злосная, бо ніяк грошай са страхоўкі ёй аддаць не хочуць, суд трымае на гэтым руку. Слаўка ў Аленінай старэйшай сястры, ды прабабка плача, гледзячы на малую, такую падобную на бацьку: „Твой тата забіў маю ўнучку!”

І грошы важныя. Юзя мае атрымаць падвойную матчыну страхоўку (неспадзяваная смерць). Гэта немалыя грошы. Таму цётка аддаць яе не хоча. Добра было б, каб дзеці ўсе трое былі разам. Але бацька Адася і Юзі не хоча іх аддаць, бо трэба было б плаціць аліменты. А прычым тут Слаўка? Хацела б усіх узяць 23-гадовая Аленіна сястра Насця, але нарачоны баіцца: нашто нам чужыя дзеці? А што будзе, як Слаўчын бацька вернецца? Яшчэ нас усіх пазабівае! То ж у квартале, дзе маці Богуша жыве, людзі кажуць, што летась напрадвесні гэта ж ён бацьку ўгробіў...

*(імёны зменены)*

**Лукаш Баравіцкі**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 33**

У другой палове 1910 года „Наша ніва” ізноў праявіла павялічанае зацікаўленне ўсходняй Беласточчынай. Інфармацыі аб ёй мелі разнародны характар. Пяць з іх былі звычайнымі інфармацыйнымі допісамі, другія аднесліся да драматычных здарэнняў у жыцці нашых продкаў. А былі і такія, якія адлюстроўвалі асветніцкія або грамадскія падзеі ў жыцці беларусаў на пачатку XX стагоддзя.

І так у 32 нумары „Нашай нівы” ад 1910 г. паявіўся артыкул Халімончыка аб Кленіках: „Кленікі. У тутэйшых мясцох з’явіліся нядаўна суслікі. Гэта маленькія звяркі, падобныя да мышэй, толькі крыху большыя. Там, дзе іх многа плодзіцца, яны робяць аграмадныя шкоды людзям, бо паломяць на ёй збажыну і хаваюць у зямлю на зіму сабе; гэтак кожны суслік на зіму прызапасіць сабе больш чым па гарнцу зерня. Раней, калі іх каля нас зусім не было, убачыўшы якую яны робяць шкоду, людзі вельмі спалохаліся, бо не ведаюць як ад гэтых суслікаў бараніцца. А яшчэ на іх волю і год сёлетні быў неўраджайны”.

Другая інфармацыя, змешчаная ў гэтым жа нумары тыднёвіка адносілася да мястэчка Супрасль. Складалася яна з двух частак. Першую частку можна было б назваць аптымістычнай, другую — песімістычнай:

„Мястэчка Супрасль. Тутака думаюць зрабіць сельскую бальніцу. Дзеля гэтай справы прыязджаў самы Гродзенскі губернскі лекарскі інспектар Кушэлёв. Такіх бальніц у губерні нашай думаюць адкрыць шэсць.

У лясах баранэсы Захэрт пачалі вельмі часта забіваць дзікіх коз і казлоў. Браканёраў так не могуць злавіць, хоць у Супраслі ёсць даволі паліцэйскіх стражнікаў”.

Трэцяя інфармацыя ў гэтым самым нумары тыднёвіка была звязана з Заблудавам: „Мястэчка Заблудава, Беластоцкі павет, Гродзенскай губерні. Не так даўно памёр тут ад разрыва сэрца наш вялікі пісар І. С. Кастэцкі. Добры быў чалавек. Уся воласць шкадуе яго, як роднага. Быў ён у нас дзесяць гадоў і многа добрага зрабіў для сялян заблудаўскай воласці. І. Во—ко”.

Чацвёртая і апошняя інфармацыя, звязаная з беларусамі усходняй Беласточчыны датычыла Белавежы. Яе аўтар пісаў аб цяжкай эпідэміі яшчуру (прышчыцы) у белавежскіх вёсках. „Так званая „сібірская язва” прайшла і звяры хваробу перасталі. (...) хваробы скаціна на языкі і на ногі (яшчур). Дохтары з Пецярбурга і Сарава і з губэрні яшчэ не раз’ехаліся. Таксама ёсць яшчэ і паліцыя з Гродна і з Беластоку. Сяляне тутэйшыя не даюць лячыць жывёлу, бо кажуць, баяцца штрафу за каждую захварэўшую скаціну. Таму нават і не гавораць, што ў каго захварэла. Найбольш хваробы жывёла на граніцы Брэстскага павету”.

У 33 нумары „Нашай нівы” за 1910 год была змешчана кароткая інфармацыя аб Сакольшчыне. „Вёска Студзянкі, Гродзенская губерня, Сакольскі павет. Каля нашай вёскі сталі цягацца ваўкі. Зарэзалі ўжо двое цялят, а ў казённых леснікоў усякі шмат авец”.

З усіх вышэйпрыведзеных цытат з нашаніўскіх публікацый вынікае адназначна, што віленскі тыднёвік стараўся трымаць руку на пульсе ўсходнебеластоцкага жыцця. Чытаючы сёння гэтыя артыкулы, нягледзячы на тое, які яны мелі характар і якіх істотных ці малаістотных праблем датычылі, не можам не адчуваць удзячнасці і да іх аўтараў, якія праўдападобна былі жыхарамі Кленік, Заблудава, Супраслі і Белавежы, і якія лічылі слушным паінфармаваць усіх беларускіх чытачоў „Нашай нівы”, незалежна ад таго, у якім рэгіёне Беларусі яны жылі. Ахарактарызаваныя інфармацыі сведчаць аб тым, што „Наша ніва” старалася быць люстрам жыцця ў розных рэгіёнах Беларусі. Якраз гэтым тлумачыцца тое, што гэты тыднёвік на працягу ўсяго свайго існавання меў рубрыку п.з. „З Беларусі і Літвы”, у якой жыхары сотняў мясцовасцей з усіх куткоў Беларусі слалі безупынна даўжэйшыя або карацейшыя допісы, якія расказвалі аб жыцці, падзеях і здарэннях у найбольш захалусных беларускіх мясцовасцях.

Публіцыстычна-журрналісцкая вартасць нашаніўскіх артыкулаў вельмі розная. Пісалі іх часта людзі малаадукаваныя, аднак гэта не абніжае іх гістарычнай вартасці. Сёння, чытаючы гэтыя публікацыі, не можам не выказаць глыбокай удзячнасці для іх аўтараў.

**Алесь Барскі**

# Ізноў аб арлянскіх яўрэях



*Сінагога ў Орлі.* Рысаваў Яраслаў ВОЙТАХ

Нядаўна „Ніва" (ад 17.01.1999 г., стар. 10) надрукавала цікавы матэрыял, які аднак патрабуе папаўнення. Яўрэі ў Орлі былі ўжо ў XVI стагоддзі, і тады мелі бажніцу. У 1763 г. яўрэйская гміна была там два разы большая чым у Беластоку. У 1807-1847 гадах лік гэты павялічыўся да 4 436 вернікаў, але ў 1941 г. яўрэяў зноў было менш: 2 000.

У XIX ст. драўляная сінагога была заменена мураванай у стылі класіцызму і барока. Была там прамавугольная зала, вузкія ўваходы абаронча характару, а на першым паверсе не было акон. На франтоне віднелася цытата з першай кнігі Майсеевага Пяцікніжжа (28:17): *Вось якім страхам напаўняецца маё сэрца перад гэтым месцам, бо ж гэта Божы дом.*

У другую сусветную вайну сінагогу перамянілі ў бальніцу і склад. Каля 1983 года пачалася яе рэстаўрацыя. Арлянская бажніца мела цудоўнае ўнутранае убранне, перад усім вялічэзны Арон Га-Кодэш, значыць, шафу, дзе хаваецца пергаментная Біблія. Яе вымаюць для чытання голасна на біме г.зн. на памосце (рундуку) у сярэдзіне залы. У час кучак навокал яе ставяць чатыры гатункі раслін. Трынаццацігадовы хлопец у гэтым месцы пачынае сваё жыццё поўнапраўнага яўрэя: яму даюць чытаць Тору (Пяцікніжжа) менавіта там. Да гэтага ён вучыцца на яўрэйскай (іўрыт) мове малітваў у хэдары (школе), а пасля гэтага можна яму вывучаць Талмуд у яшыве, калі ён яшчэ не мае дваццаці гадоў.

Каб набажэнства магло адбыцца, патрэбна прысутнасць міняна г.зн. мінімуму дзесяці дарослых яўрэяў. Трэба яшчэ ведаць наступныя тэрміны: габай — сінагагальны староста, хаззан — кантар (як у царкве дыякан), шамаш (па-яўрэйску шамэс) — прыслугач. А калі на сцяне пабачым дзесяць літараў на іўрыце, або дзесяць кароткіх слоў, то ведайце, што гэта або нумары дзесяці запаведзей, або іх пачатковыя тэксты. Ну, а шасціканцовая звязда або шчыт Давіда — гэта два скрыжаваныя трохвугольнікі вядомыя ўсім ад часоў сярэдневякоўя. Яна цяпер з'яўляецца дзяржаўным сімвалам Ізраіля.

Пані Зофія Нядзельская памылілася пры Йом Кіпур: гэта не „страшны дзень", а „судны дзень", інакш „дзень прымірэння". Ну і кучкі трываюць не восем, а сем дзён. Не аб'ясніла яна свята Пурым, якое звязана з падзеямі народа, які каралём Навуходаносарам (у лічбе 16 000 асобаў эліты) быў вывезены ў Вавілон у 597, 587, 582 гадах да нашай эры. Калі яўрэйка Эстэра (па-царкоўнаславянску ў Старым Запавеце: Есфирь) стала жонкай персідскага цара Ахашвэраша і яўрэям пагражала гібель, яна выратавала жыццё сваіх суродзічаў. У гэтае свята кожны яўрэй павінен даць міласціну найлепш двум жабракам і пасляць прынамсі адзін пачастунак знаёмаму.

Сінагога ў Орлі лічыцца самай велікапышнай на Падляшшы. Але не трэба забываць пра тое, што ў 1939 г. у Беластоку было восемдзесят тысяч яўрэяў, якія мелі амаль сто сінагог і малітоўных дамоў. Гэта там быў цэнтр! У 1941 годзе нацысты спалілі 1 000 яўрэяў у сінагозе... жыўцом. А гета пасля паўстання зраўнялі з зямлёй.

Больш пра сінагогу ў Орлі можна прачытаць у кнізе: A. Lutostańska, *Orla, powiat Białystok. Bóżnica*, Warszawa 1959, Pracownie Konserwacji Zabytków, а пра рэлігію яўрэяў наогул — у кнізе (пераклад): Alan Unterman, *Encyklopedia tradycji i legend żydowskich*, Warszawa 1994, Książka i Wiedza, stron 308 (багата ілюстраваная).

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**



*Інтэр'ер сінагогі ў Орлі. Арон Га-Кодэш.*

# Праўда пра яўрэяў

Вельмі цікава і жывапісна пераказаў нам Міхал Мінцэвіч успаміны Зофіі Нядзельскай з Орлі пра арлянскіх яўрэяў („Ніва" н-р 3). Праўду пішa наш карэспандэнт пра сумную гісторыю Давідавых патомкаў. Мае бацькі часта ўспаміналі пра арлянскіх яўрэяў, з якімі вельмі добра жылі, бо Орля была найбліжэйшым ад Дубіч-Царкоўных гандлёвым цэнтрам. Апрача таго бедныя яўрэі часта наведвалі нас са сваімі таннымі таварамі. Мой бацька быў знаёмы з усімі арлянскімі яўрэямі і ніколі дрэннага слова пра іх не сказаў, толькі пахвалы. Гэтыя людзі былі інтэлігентныя, культурныя і шчырыя, а ў кожнай бядзе дапамагалі не толькі сваім, але і чужым. Не было сярод іх п'янства, зладзейства, забойстваў і падхалімства. Яны жылі пераважна з гандлю, а вядома, што гэтая галіна дзейнасці ніколі не была стабільнай і таму здараліся выпадкі, што пакупнік замнога плаціў за тавар. Віну за гэта звальвалі на яўрэяў гаворачы, што яны ашуквалі. А сёння тыя, што яўрэя на жывыя вочы не бачылі, не ашукваюць?

Цяжкі лёс выпаў на долю яўрэяў падчас апошняй вайны, калі з рук гітлераўцаў загінула іх шэсць мільёнаў. Але і нашы людзі не ўсе былі яўрэям прыхільнымі і часта здзекаваліся над імі. Калісь адзін дзядзька з нашых старон упусціў галку ў арлянскую бажніцу калі там адпраўлялася набажэнства; некалькі гадоў таму той дзядзька памёр у вар'яцкім доме.

Коратка да вайны на ўзгорку каля Бахматаў пры Камянецкім гасцінцы працавала цагельня Арцёма Сцяпанавіча. Аднойчы гэтым гасцінцам дрэмлючы вяртаўся ў Орлю яўрэй са сваім таварам. А адзін рабочы, Грышка, набраў лапатай размешанай клейкай гліны і шлёпнуў яе ў твар таму яўрэю, а той яму нават дрэннага слова не сказаў. Пасля вайны Грышка перабраўся ў Чаромху, дзе стаў міліцыянерам на чыгунку і хацеў навесці парадак сярод савецкіх салдатаў, якія вярталіся з вайны дамоў. А з імі жартаў не было і падстрэлілі яны „героя" так, што стаў інвалідам, а пасля памёр як горкі п'яніца.

У царскай Расіі царыў антысемітызм, часта былі пагромы жыдоў і мо таму тая Расія развалілася *ўпрах*. А што рабілася ў Польшчы ў 1968 годзе, калі ўсе выдатныя вучоныя яўрэйскага паходжання вымушаны былі ўцякаць за мяжу? І хто ведае, ці не праз гэта наша камуна найхутчэй развалілася. Сёння часта чуем, што Польшчаю правіць жыдаўня; калі я такое пачую, дык з сумам думаю, што калі б намі правілі яўрэі, дык мо не было б у нас гэтага непарадку, які маем сёння. Бо гляньма цвяроза на Ізраіль: сярод пустыні сваёю працай і ахвярнасцю яўрэі стварылі амаль райскі агарод. І людзі там жывуць заможна, няма зладзейства, п'янства, злачынстваў толькі таму, што гэты народ дружны як адна сям'я і трымаецца Божага Закону. Хаця некаторыя палітычныя справы ўрада гэтай краіны мне не падабаюцца, але ў нас гэтых балючых спраў намнога больш.

**Мікалай Панфілюк**

# Воўчае права натуры

Стаім у варот XXI стагоддзя. Жывем у цывілізаваным свеце. Лічымся хрысціянскім народам. А як паступаем?

Глянем навокал сябе, і што бачым? Адно насілле, забойствы і гвалт!

У дзяцінстве мяне вучылі: трэба жыць па-божаму, як Ісус Хрыстос навучаў: галоднага накармі, сасмагламу ваду падай, а хвораму спагадай. Я так і паступаў. Аднак у жыцці нешта іншае пабачыў. Чалавек у лютага звера пераменіўся. Адзін другога ў лыжцы вады ўтапіў бы. І дзеля чаго так сябе паводзім? Куды імкнемся і чаго хочам дасягнуць?

Пры камуне многія крычалі: хочам незалежнасці і свабоды! А калі гэтага дабіліся, пачалі галасіць: „Прэч з камунай!" Значыцца, трэба ўсё, што засталося ў спадчыне, разварушыць або знішчыць.

І пачаўся грабеж грамадскай маёмасці. Як нядаўна пісаў Яўген Міраковіч, у васьмідзесятых гадах кралі ўсе, хто меў толькі магчымасць. Тадышнія законы спрыялі жулікам. Зараз таксама справа не лепш маецца. Глянем на факты. Апошнія блакады дарог паказваюць грамадству, што сяляне апынуліся ў тупіку, не маюць з чаго жыць. Ці гэта магчыма, каб у рыначнай эканоміцы селяніну плацілі па 2 зл. за кілаграм свініны, калі кілаграм найтаннейшай каўбасы ў краме каштуе каля сямі-васьмі злотых? Не лепш справа маецца са збожжам.

Яўген Міраковіч пісаў таксама, што „багатыя з году ў год становяцца багацейшымі, бедныя — бяднейшымі, а рацыю (...) заўсёды маюць пераможцы". Святая праўда! Рацыя заўсёды на баку пераможцаў! Яны ствараюць законы так, каб заўсёды можна было знайсці сабе выхад.

Прыкладаў на гэта хоць адбаўляй. Прывяду першы-лепшы са свайго панадворка.

У мінулым годзе рашыў я канчаткова пакончыць са справай неадпаведных паводзін маіх прафсаюзных калег — саліднарікаў з Чаромхі. Пісаў я самым высокім дзяржаўным чыноўнікам, а калі нічога не дабіўся, напісаў у бюро абаронцы грамадзянскіх правоў праф. А. Зялінскага і ў Ваяводскую пракуратуру.

Са сталіцы не атрымаў вырашальнага пісьма, затое ад ваяводскага пракурора дастаў аптымістычны адказ: справа будзе ўсебакова разгледжана нанава, бо расследаванне ў Раённай пракуратуры праводзілася заганна. Пасля быў я паклікаваны ў Беластоцкую раённую пракуратуру, дзе адбылася даволі цікавая размова з пракурорам. І тады я зразумеў, што няма тут мне чаго шукаць, бо і так нічога не даб'юся. Так і было.

Амаль год чакаю адказу ад вышэйзгаданых чыноўнікаў Ваяводскай пракуратуры. Пэўна яны даўно маю „справу" закінулі ў сметніцу. Бо такія ўжо зараз маем прынцыпы і логіку воўчага права: рацыя на баку пераможцаў!

**Уладзімір Сідарук**

# Малочнае пытанне

Падаюць закупачныя цэны на малако. У Орлі сялянам плацяць ужо ад 30 да 62 грошаў за літр. Аднак у далейшым патрабуецца ад іх стрыманне высокіх санітарных і якасных норм, што ў перспектыве можа давесці да заняпаду малых сельскіх гаспадарак.

— Усюды вырашае эканоміка, у гаспадарцы селяніна таксама, — кажа загадчыца сектара скупкі Малочнатаварнага кааператыва „Бяльмлек” у Бельску-Падляшскім Бажэна Сысула. — Найменш плацім за малако, якое не адпавядае нормам. Такое малако пастаўляюць сяляне, якія не маюць адпаведных умоў для вытворчасці малака, не распараджаюцца спецыяльным абсталяваннем. Ім не пад сілу правесці мадэрнізацыю сваіх гаспадарак. Аб іх будучыні цяжка сказаць нешта канкрэтнае. Залежаць яна будзе і ад ініцыятывы саміх сялян, і ад падыходу дзяржавы да гэтага пытання.

Малако з тэрыторыі ўсяго Бельскага павета перапрацоўваецца на заводах у Бельску, Сямятычах, Лапах і Высокім-Мазавецкім. Расце колькасць сялян, якія малако трымаюць у сябе ў танках, скуль забіраюць яго заводскія аўтацыстэрны. Кааператыў „Бяльмлек” у Бранськай гміне мае 155 сялян-„танкераў”, у Боцькаўскай — 93, Бельскай — 69, Вышкаўскай — 28, Дзядковіцкай — 27, Гродзіскай — 16, Рудкаўскай — 9 і Арлянскай — 9.

— Кожны селянін, які займаецца вытворчасцю малака, павінен весці дакументацыю ўсіх ветэрынарных працэдур у сваёй гаспадарцы, — кажа санітарны інспектар Бельскай ветэрынарнай амбулаторыі Ілона Андрайчук. — Цяпер селянін-„танкер” і ягоная жонка таксама павінны мець „кніжачкі здароўя”, у якіх адзначаюцца прафілактычныя абследаванні іх стану здароўя. Санітарны кантроль у такіх гаспадарках праводзіцца раз у год, але гэтая частотнасць можа змяніцца.

Сяляне наракаюць, што таннейшым становіцца не толькі малако, але і жывёнасць, так што цяпер не аплачваецца гадаваць свіней (нават на кааператыўных свінафермах). Паводле іх, набліжаемся мы не да Еўрапейскага Саюза, але да краін трэцяга свету. Падтрымоўваюць яны дарожныя блакады сялян у краіне, салідарызуюцца з імі.

**Міхал Мінцэвіч**

# Каб хтосьці падлічыў

Калі ўводзілася адміністрацыйная рэформа краіны, улады заяўлялі аб нізкіх яе коштах (тры злоты на душу насельніцтва), скарачэнні адміністрацыйнага апарату і набліжэнні ўлады да народа. Маем цяпер 16 а не 49 ваяводстваў, паўсталі паветы, але парадку ў краіне няма. Не наблізілася таксама ўлада да людзей. Можна сказаць, што яна пачынае аддаляцца, бо з гмінаў некаторыя кампетэнцыі пераходзяць у павятовыя структуры. І зноў прыйдзецца сялянам ездзіць у бліжэйшыя гарады афармляць свае справы ў павятовых установах. Людзі страцяць час і грошы, а чыгуначнаму і аўтобуснаму транспрату прыбудзе пасажыраў.

Цікава ці тых трох злотых хапіла на новыя пячаткі і шыльды, якія так гучна мяняліся ў пачатку года. Не чуваць таксама, каб чыноўнікі з распушчаных устаноў сталі беспрацоўнымі. Варта, каб хтосьці падлічыў, колькі на гэтай рэформе страціла і колькі скарыстала наша Падляшскае ўжо цяпер ваяводства.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Дарагі Астрон! Сніўся мне на днях дзіўны сон. Быццам мы з жонкай і знаёмымі былі ў нейкай вёсцы, бадай, у той, адкуль паходзіць жонка. Нейкая цётка адтуль хваліцца, што мае вялікі драўляны дом, які мае намер перавезці ў горад. На выгляд дом стары і нічуць не вылучаецца ад іншых дамоў у гэтай вёсцы.

Далей не помню, што было, але вось гэта кампанія людзей апынулася ў нейкім горадзе, ці гэта Бельск-Падляшскі, а мо Беласток?.. І ўсе мы ў будынку чыгуначнай станцыі і купляем білеты дамоў. Я меў намер яго купіць, але жонка мяне штурхнула рукою і кажа, што білет мне купіла. Не помню, ці я яго ўзяў, ці не ўзяў, але тут усе хлынулі на перон, бо меў прыбыць наш цягнік. Я бягу першы і бачу, што ўжо ён пад'язджае, але дзіва, дзе вагоны? Толькі адзін і чамусьці кароткі паравоз, а машыніст праз акно крычыць: больш як дваццаць пасажыраў я не вазьму ў паравоз. Машына прыпынілася на момант, але я паспеў схапіцца за драбінку паравоза і лезу наверх, а мне з сярэдзіны людзі дапамагаюць, каб я далез і не зваліўся, бо машына ўжо рушыла. Я бачу, што ў сярэдзіне ёсць некаторыя пасажыры з маёй кампаніі, у тым ліку мая суседка. Але жонкі няма. Дык я падумаў: яна напэўна дамоў даедзе іншым поездам. І бачу яшчэ, што некаторыя пасажыры дабягаюць да перона, але ўжо позна, бо цягнік пакаціўся наперад. Адзін дзядзька нават бег услед за ім, але, вядома, не дагнаў яго. На гэтым я прачнуўся. Штосьці мяне трывожыць гэты сон, бо мая жонка ад нядаўна ляжыць у шпіталі ў Беластоку і гэта не першы яе „візіт” у шпіталі. Мне сумна і трывожна, і не дай Бог — найгоршага. Прашу адказаць на гэты сон.

З пашанай

**Ваш Мікалай**

Шаноўны Мікалай! Сумна і мне паведамляць табе невясёлую вестку. Бачыш, гэты праклёты цягнік сведчыць аб вялікай небяспецы, якая пагражае табе. А ты ж яшчэ ўзлазіў на той паравоз па драбіне (цяжкасці). З тваёй жонкай клопаты будуць. У кожным выпадку хваробы яна так хутка не пазбудзецца. Сам жа бачыш, што ты паехаў, а яна засталася. Ну,, і яшчэ той цётчын дом, які яна збіраецца перавезці... Але няхай жывыя не трацяць надзеі.

**Астрон**

## Ходзіць сон

Ходзіць сон
Каля акон,
Хоча ўвайсці ў хату,
Каб ты быў багаты.

У сне мы бачым цуда,
Кепска быць ля бруда;
Калі гэта сніцца,
Можа штось прыбіцца.

А наш верны Астрон —
Гэта астраном
Неба і душы.
„Нівай” даражы!

Сны гадае верна,
Кожнаму аддзельна,
На старонках „Нівы”
Руплівы, старанны і не лянівы.

Так гадаў Кандрат
З Руткі — дзядзькаў брат.
Я пісаў пра гэта
Прошлага мо лета...

Рубрыка Астрона —
„Вер — не вер” — не дымная заслона,
А праўдзіва з'ява
І фальклорна слава.

Хай Астрон гадае,
Наш люд праслаўляе
На старонках „Нівы”!
Адважны Ён, не баязлівы.

**Мікалай Панфілюк**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 823. Ян Хіліманюк (Гайнаўка) ... 20 зл.
4 824. Мікалай Касцюк (Сямятычы) ... 36,00 зл.
4 825. Васіль Белаказовіч (Беласток) ... 100,00 зл.
4 826. Галіна і Аляксей Карпюкі (Бельск-Падляшскі) ... 20,00 зл.
4 827. Мікалай Суліма (Гайнаўка) ... 10,00 зл.
4 828. Ірэна Парфянюк (Гайнаўка) ... 26,00 зл.
4 829. Надзея Міцкевіч-Касмовіч з Нямеччыны ... 210,00 зл.
4 830. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) ... 10,00 зл.
4 831. Міхал Дулько (Белавежа) ... 18,00 зл.
4 832. Вольга Сянкевіч (Гайнаўка) ... 24,00 зл.
4 833. Славамір Кулік (Гайнаўка) ... 20,00 зл.
4 834. Васіль Петручук (Беласток) ... 20,00 зл.
4 835. Анастасія Цімашук (Гайнаўка) ... 12,00 зл.
4 836. Рыгор Сурэль (Гайнаўка) ... 12,00 зл.
4 837. Ян Жамойцін (Варшава) ... 150,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.

# V З'езд выпускнікоў

28 чэрвеня 1998 года заснаваўся Арганізацыйны камітэт V З'езду выпускнікоў і выхаванцаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

Юбілейны, V З'езд, арганізаваны ў 55-ую гадавіну заснавання школы, плануецца правесці 25-26 верасня 1999 года.

Калег, якія хочуць прыняць удзел ва ўрачыстасцях, просім кантактавацца і даваць папярэднія заяўкі па адрасе:
II Liceum Ogólnokształcące z BJN
im. B. Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim
ul. Kopernika 4
17-100 Bielsk Podlaski
z dopiskiem „V Zjazd Absolwentów”

Аргкамітэт просіць таксама ўключыцца ў інфармацыйную акцыю аб планаваным З'ездзе і ў падрыхтоўчыя працы, між іншым, у прыцягненні спонсараў.

**Аргкамітэт**

## Хачу перапісвацца...

*...з жанчынай з Польшчы (найлепш свядомай беларускай). Мне 35 гадоў, а мой адрас такі:*

*Рэспубліка Беларусь*
*230012 Гродна*
*вул. Даватара 10/53*
*Андрэй Заянчкоўскі*



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міраповіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 marca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Пародыі

**Пасля п'янкі**
*Хто я...*
*Я тут...*
***Уладзімір САЎЧУК***

Хто я такі? — пытаюся ў сябе,
Чаго я тут? Хоць я даўно не тут.
І мышаня пад лаўкаю скрабе,
А каля печы — варыва і бруд.
Хто я такі? — пытаюся ў другіх,
Чаго я тут? Павінен быць я там.
Але навокал позіркі чужых
І спрэчкі п'яных, мацюкі і хлам.
Хто я такі? Куды патрапіў я?
Чаго я тут сярод пустых бутэлек?
Вунь спіць суседка пад сталом мая,
Замест падушкі — восем целагрэек.
Хачу падняцца — сілы не стае,
Хто я такі? Чаго я тут шукаю?
А жонка ў хаце ужо шыбы б'е,
І качаргою чорнаю махае.
Прабач мне, жонка. А ці гэта я?
Чаго я тут, хоць я даўно не тут?
Я пазнаю, што хата не мая,
І што не мой гэта маленькі кут.
Ды жонка слухаць плачу не жадае,
А качаргою хвошча па спіне.
Суседка хутка з хаты уцякае,
А без яе больш дастаецца мне.
Хто я такі? Пытаюся ізноў.
Чаго я тут? Хоць я даўно ўжо дома.
Я да суседкі болей не пайшоў,
Хоць без яе сумую я, вядома.

**Сяргей Чыгрын**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. сталіца Заходняга Самоа, 8. вялікая чарка для віна, 9. чатырохгранны шліфавальны камень, 10. іншаверац для мусульманіна, 11. печаны выраб з начынкай, 13. блін спечаны на патэльні, 15. вузкая і глыбокая яма для здабывання вады, 16. самец авечкі, 20. панчохі вывязаныя разам са штанамі, 22. прылада для глыбокаводных акеанаграфічных даследаванняў, 23. парадкавы лік прадмета, 27. фальклорны калектыў з Козлікаў, 29. знак азбукі, 30. акісляльнік, 31. месца спаборніцтва баксёраў, 32. бядровая частка свіной нагі, 33. у чужое не сунь носа, 34. вялікі марскі рак.

**Вертыкальна:** 1. гарызантальная дошка прымацаваная да сцяны, 2. чорнабелая даўгахвостая птушка сямейства крумкачовых, 4. участак зямлі адведзены для спецыяльных мэт, 5. маляваны прадмет рэлігійнага пакланення, 6. мястэчка на Віцебшчыне і Беласточчыне, 7. цыліндрычная пасудзіна з выпуклымі бакамі, 12. амерыканскі грабежнік, 14. жонка лезгіна, 16. не мела клопату, дык купіла парася, 17. пяхотнае падраздзяленне, 18. ядро з электронамі, 19. 1000 см$^3$, 21. жыхарка грэчаскай сталіцы, 24. паўднёваамерыканская шыроканосая малпа, 25. індыйскі прынцып непрычынення зла, 26. прыгонны наглядчык, 27. апаратура, якая асвятляе сцэну, 28. пасудзіна для піцця спіртных напояў. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 1 нумара**

**Гарызантальна:** рэчыва, Малаві, дакота, арка, воін, Леанкавала, Кана, Вапа, Сінана, Алмела, Райчаў.

**Вертыкальна:** рэктар, вада, мата, Відзін, Копакабана, калена, волава, капрал, Паўлаў, сіла, нара.

Рашэнне: **Праўда вочы коле**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Наталлі Герасімюк** з Гайнаўкі і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## Кароткі курс параноі

**Куды ідзем**

Склікаў Сакрат на плошчу маладзёнаў і сарамаціць:

— Гляджу на вас і збірае мяне на ваніты. Смажыцеся ў роскашы, распанелі, а хамуты. Якія ў вас манеры, якія нораvы! Ненавідзіце аўтарытэты, не паважаеце старэйшых, дапякаеце сваім настаўнікам, спрачаецеся з бацькамі, прагна глытаеце ежу — і на вуліцу. І гэта называеце „быць сабою". Куды ідзем?

З „*Czasopisa*" спісаў? Праўда, вы ж, як і я — тыповыя мужыкі, чытаеце толькі сярмяжную „Ніву". Дык патлумачу: прыведзенай мною гаворцы дзве з паловай тысячы год. І адрасавана была не нашым *zajebestym* бязбацькавічам, а маладым грэкам. І прапаведаваў вялікі мысляр, які „за ўвядзенне новых багоў і за разбэшчванне моладзі ў новым дусе" быў пакараны смерцю (прыняў атруту).

Той Сакрат шукаў адказу на пытанне, як трэба жыць: „Пазнаць самога сябе".

Крыноцкі мысляр пазнаў не толькі самога сябе, але і Еўропу. З плённых назіранняў і вырасла ў Крынках, на ўзор Гедройцевай *Maisons Laffitte, Villa Sokrates*. Не думайце, што Еўропа абсыпала нашага мысляра грашыскамі — ажыццявіў ідэю коштам роднай хаты. Раскашэліўся Сакрат, пабудаваў не якую-небудзь нашаніўскую „Хатку", а *Villa Sokrates*. Гучыць! Хоць і замахнуўся на традыцыю.

А казаў, што стаміўся і думае толькі пра рыбу. Віншую, Сакрат! Не прыкідвайся, што не волат. Ты і вялікі стратэг. Дасі цяпер прыкурыць суседскаму Лукашу. І цемрастоцкай Лукашчысе пакажаш Тэрмапілы. Моцна не мацай толькі нюхавак „белавежскім" геніям — хто нюніць будзе па героях Тэрмапілаў?

Добра зрабіў, што скрыў ад *GW* тактычны план вываду з рускай блакады крывіцкіх пісакаў. Хоць пры крамлёўскім галаваціпе такую аперацыю можна правесці і не ўтойваючы тактыку. А мо тым саветызаваным правінцыялам выгадна сядзець у маскоўскім мяшку?

Веру, узнімеш дух у элітах. І *zajebesty* маладняк у рот твой глядзець будзе. І Мілаш будзе, і Быкаў будзе, і Акадэмія. Толькі навошта ўзнаўляць твор вучня твайго цёзкі? Цёзка выкладаў на вуліцы. Меў клёк. Тады б і „ніўцы" падвучыліся. Табе відней.

А калі стане душна ў Акадэміі, калі надакучаць маладыя юрліўцы і зануды з вышэйшых сфераў, мо, абходжваючы Лукашчыху, заглянеш на тэт-а-тэт да нас?

Ведай, у табе і наша надзея. Толькі не пішчы, грымець трэба! Жывем жа дзве з паловай тысячы год пасля твайго гаротнага цёзкі. І цыкута выйшла з моды.

На новую дарогу:

*Villa Sokrates — neo CZASopis — Thermopile...*

*Salut!*

**Сідар МАКАЦЁР**
*(Цемрасток)*

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:***

### Крыноцкая — дарожная

За лясамі, за гарамі
Жыў Сакрат, мысляр з вусамі
І з курчавай барадою
Старагрэцкага пакрою.
Маладым задаваў тон —
Арыстып, Эўклід, Платон
Выйшлі з-пад яго рукі.
Усіх праславілі вякі.
— Вялікая, цёзка, справа
Ў жыцці — увайсці ў славу.
Так, калі ўначы не спаў,
Мысляр з Крынак разважаў.
— Зведаў свету я нямала:
Лондан, Нью-Йорк, Парыж, Рым.
За грэка ўсюды прымалі,
Хоць ты ў Афіны пры.
*A, Sokrates! Witaj w domu!*
Перадай паклон Афону, —
Па плячы мяне паляпаў
Сам найбелы польскі папа.
— Сваты Ойча, я з Варшавы!
Не вусата-кучаравы.
Зірк у люстэрка: — Во халоп!
У мяне ж Сакратаў лоб!
З вякоў: — Дык як я ідзі,
У Крынкі паству не вядзі.
Кіруй блудных новым тропам,
Не на Усход — кіруй у Еўропу.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Я карыстаюся поспехам у жанчын: лаўлю іх адну за другой, як рыбы.

— Не забудзь, што маеш толькі адну вудачку!

* * *

— Чаму наш сусед назваў свайго сына Гамлетам? Мо з'яўляецца ён любіцелем Шэкспіра?

— Яго сын, ці не яго? — вось пытанне!

* * *

— Калі вып'еш, нагадваеш самалёт, — гаворыць жонка мужу.

— Такі я дынамічны?

— Не, няма з цябе ніякай карысці на зямлі.

* * *

— Мамачка, чаму маладая да шлюбу заўсёды апранаецца ў белае?

— Таму, што белы колер абазначае радасць.

— Цяпер разумею, чаму малады апранаецца ў чорнае.

* * *

Сын паведамляе бацьку:

— Пазнаёміўся я ўчора з прыгожаю дзяўчынай і хачу з ёю жаніцца.

— А хто яна?

— Маруся, што жыве пад лесам.

— Гэта немагчыма, бо яна з'яўляецца тваёю сястрой; гэта вынік маёй памылкі з маладых гадоў...

Мінуў месяц і сын зноў паведамляе бацьку пра намер жаніцца. Бацька зноў пытае, з кім.

— З Тэрэскаю, што з-за рэчкі, — адказвае сын.

— Гэта немагчыма, бо яна таксама з'яўляецца тваёй сястрою...

Прыгнечаны сын пайшоў да маці.

— Целяпень ён, — кажа маці, — ён жа не з'яўляецца тваім бацькам.

* * *

— Ведаеш, дачанька, той твой учарашні ўхажор зусім мне не спадабаўся.

— Не хвалюйся, татку, ты яму таксама не падабаешся.

* * *

— Запамятай, сынок, пасля шлюбу ты ніколі не пытай жонкі, чаго яна плача.

— Чаму, татка?

— Бо такая цікавасць вельмі дорага каштуе.

* * *

У аптэку ўваходзіць лысеючы мужчына:

— Ці маеце той рэкламаваны сродак на рост валасоў?

— Так, і кожнаму, хто купіць дзесяць бутэлек, дадаем дармова адзін парык.

* * *

— Калі вас пацісканю ў гэтым месяцы, — пытае пажылую жанчыну лекар, — баліць вам?

— Не, пан доктар, але гэта нагадвае мне маладыя гады.